**Цэна асобнаго нумэру 5 кап.**

Год други. Вильня 6 января (стычня) 1907 г. **№ 1.**

Цэна з перэсылкою и дастаукою да хаты: на 1 г. — 3 р., на 6 мес. — 1 р. 50 кап., на 3 м. — 75 к., на 1 мес. — 25 к. Без дастауки и перэсылки: на 1 г. — 2 р. 40 к., на 6 м. — 1 р. 20 к., на 3 мес. — 60 к., на 1 мес. — 20 к. За границаю: на 1 г. — 4 р., на 6 мес. — 2 р., на 3 мес. — 1 р. Перэмена адрэсу — 20 кап.

# Наша Нива

## Першая Беларуская Газэта з Рысунками

**Выходзиць раз у тыдзень рускими и польскими литэрами.**

Падписка прынимаецца и прадаюцца атдзельные нумэры газэты: 1) У Кант. „Нашай Нивы“ — Бальшая Погулянка дом № 17, кв. 20. 2) У Книгарни „Знание“ — Георгиеуски проспэкт дом № 14. 3) У Книгарни Литоуской М. Пясецкой — Шлапэлис, Доминиканская вулица дом № 13.

Адрэс рэдакцii и администрацii: **Вильня, Бальшая Погулянка дом № 17., кв. 20.**

Абъяуленння прынимаюцца на наследней страницы па 20 кап. за линейку малыми литэрами. Рукаписы и корэспондэнцыи, прысланные у рэдакцию, мусяць быць чытатэльна написаны з праудзивою фамильею и адрэсом таго, хто яе прысылае. Можна такжэ надписаць прозвицэ разом з фамильею, хто незахочэ, каб была надрукована праудзивая фамилия. Адрэс и фамилия тольки для ведама рэдакцыи.

*Ад Рэдакцыи:* З прычын, незалежных ад Рэдакцыи, рысункоў ў гэтым нумэры не памешчаем.

## *На Новы Год.*

*З Новым Годам, с шчасцем новым!*
*Дай жэ Божэ, гэты год*
*Каб успомнiу шчырым словам*
*Працавиты увесь народ!*

*Каб больш слезы не лилися,*
*Каб не падау чалавек,*
*Каб астроги заперлися*
*Ад людзей на вечны век;*

*Каб казали, што хацели,*
*Каб не гнулись, як цяпер,*
*Каб са страхам не глядзели*
*На вурадникоу каунер;*

*Каб пабольшало нам поля,*
*Каб разросся вузки луг,*
*Каб спевали песни воли,*
*Дзержучы жалезны плуг.*

*Дай Бог шчасця вам и долю*
*Усим, хто слезы пралывау,*
*Хто у бедным, родным полю*
*Зерне прауды засевау!*

*Якуб Колас.*



*Вильня 6 (19) января (стычня).*

Наступиў Новы Год.... Трэци год, як льецца кроў народу, чуваць енки и стоны па турмах и ў Сыбиры. Дачэкаўся народ цяжкими муками Гасударственой Думы и па кавалачку „свабод“. Другие свабоды правицельства абецае, але з рук не пушчае!.... Вёсковы и гарацки працуючы народ за гэты год шмат чаго навучыўся, ён пазнаў, хто яго вораги и хто прыяцели; и рвёцца ён цяпер к свабодзи, лепшэй доли, к лепшым парадкам. Але ешчэ шмат яму трэба зразумець и шмат зрабиць, каб дабицца ўсяго.

Збираецца новая Дума. Мужыки чэкаюць ад Думы зямли и свабоды, работники на фабрыках чэкаюць, каб Дума дала им усё, што написана на их штандарах.

Гэта ўсё можэ даць тольки поўнаўластная Дума з выбраными с памеж дэпутатоў

Цэна асобнаго нумэру 5 кап.

Год други. Вильня 30 марца 1907 г. № 13.

Цэна з перасылкою и дастаукою да хаты: на 1 г.— 3 р., на 6 мес. — 1 р. 50 кап., на 3 м. — 75 к., на 1 мес. — 25 к. Без дастауки и перэсылки: на 1 г. — 2 р. 40 к., на 6 м. — 1 р. 20 к., на 3 мес. — 60 к., на 1 мес. — 20 к. Заграницаю: на 1 г. — 4 р., на 6 мес. — 2 р., на 3 мес. — 1 р. Перэмена адрэсу — 20 кап.

# Наша Нива

Першая Беларуская Газэта з Рысунками

Выходзиць раз у тыдзень рускими и польскими литэрами.

Падписка прымимаецца и прадаюцца атдзельные нумэры газэты 1) У Конт. „Нашай Нивы" — Завальная вулипа дом № 45, 2) У Книгарни „Знание" — Георгиеуски проспэкт дом № 14. 3) У Книгарни Литоуской М. Пяцицкой — Шлапэлис, Доминиканская вулица дом № 13.

Адрэс рэдакцiи и администрацiи: Вильня, Завальная вулица, дом № 45

Абъвуления прынимаюцца на наследней страницы па 20 кап. за линейку малыми литэрами. Рукапись и корэспондэнции, прысланные у рэдакцию, мусяць быць чытатэльна написаны з праудзивою фамильею и адрэсом таго, хто яе прысылае. Можна также падписаць проввища разом з фамильею, хто незахочэ, каб была надрукована праудзивая фамилия. Адрэс и фамилия тольки для ведамя рэдакции.

Усим, хто падписаўся на газэту на тры месяцы, рэдакция прыпаминае, што ўжо час прысылаць грошы за другую чверць году. Кали хто не дастаў № 12 „НАШАЕ НИВЫ", рэдакция просиць выбачаць, бо гэты нумэр сконфискованы.

## ВЁСКА.

Цесна зьбилися нашы хаты,
Як авечки ў летни жар;
Для агню тут корм багаты,
Як впадзе сюды пажар.
Хлеўчык, погрэб и гуменцы
Пад адзин зьлилася плех;
Трэски ўсаджэны ў вакенцы,
Замеж шкла—радняны мех.
Загародка пад акнами,
Блисьне кветка дзе-не-дзе.
Зельем глушыцца, травами
Мак, цыбулька на градзе.
Зеленеюць два-тры клёны,
Гляне липа дзе з-за хат;
Дзе-не-дзе садок зялёны,
Низких вишэнь чахлы рад.
Видны сани пад стрэхою,
Кола, сошка, барана,
Кол з хваёвою мятлою,
Вбиты ў дол кале акна.
Многа тут грази ў нягоду,
Многа пылу ў летни жар!
Тут дабра не бачыць з роду,
Тут марнее гаспадар...
Тут нуда жыве люцкая,
Прыпынилось горэ тут;
Смерць дзяцей, хвароба злая
Тут знашли прытульны кут!

*Якуб Колас.*

## ГАСУДАРСТВЕНАЯ ДУМА.

### Заседанне 20 марца.

Разглядываецца гасударствены бюджэт —аб даходах и расходах казны. Першы гаварыў министэр финансов Коковцов. Ен навучаў Думу, як яна павинна разглядываць бюджэт. Нехай яна лепей зацьвярдзиць усе расходы и не надта их пушыць, бо лёгка казаць, што гэта кепска, а гэта не, але не так лёгка паправиць. Ўжо сотни га-

**Цэна асобнаго нумэру 5 кап.**

Год други. Вильня 6 (19) апрыля 1907 г. № 14.

Цэна з перасылкою и дастаукою да хаты: на 1 г.— 3 р., на 6 мес.— 1 р. 50 кап., на 3 м.—75 к., на 1 мес.—25 к. Без дастаукi и перасылки: на 1 г.— 2 р. 40 к., на 6 м.— 1 р. 20 к., на 3 мес.— 60 к., на 1 мес.—20 к. За границаю: на 1 г.— 4 р., на 6 мес.— 2 р., на 3 мес.— 1 р. Перэмена адрэсу — 20 кап.

# Наша Нива

**Першая Беларуская Газэта з Рысунками**

**Выходзиць раз у тыдзень рускими и польскими литэрами.**

Падниска прынимаецца и прадаюцца атдзельные нумэры газэты 1) У Кант. „Нашай Нивы“ — Завальная вулица дом № 45, 2) У Книгарни „Знание“— Георгиеуски праспэкт дом № 14. 3) У Книгарни Литоуской М. Пясицкой — Шлапэлис, Доминиканская вулица дом № 13.

Адрэс рэдакцiи и администрацыи: **Вильня, Завальная вулица, дом № 45.**

Абъяуленнэ прынимаюцца на наследней страницы па 20 кап. за линейку малыми литэрами. Рукаписы и корэспондэнции, прысланные у рэдакцию, мусяць быць чытатэльна написаны з праудзивою фамильею и адрэсом таго, хто яе прысылае. Можна такжэ падписаць прозвищэ разом з фамильею, хто незахочэ, каб была надрукована праудзивая фамилия. Адрэс и фамилия тольки для ведама рэдакцыи.

## МЕСЯЦ.

Циха месяц адзиноки
Ходзиць ў небе над зямлёю.
Неразгаданы, далёки!
Што ты бачыш пад сабою?

Бачыш слёзы ты люцкие,
Як з расою яны льюцца,
Як ў тумане думки злые
Горким плачэм панясуцца;

Як без воли и без хлеба
Працавиты люд наш гнецца...
Кинь ты скаргу нашу ў неба—
Нехай неба ўскалыхнецца.

*Якуб Колас.*

*Вильня 6 апрыля.*

Ўжо 46 дзён, як сабралася Гасударственая Дума. Работа ў яе кипиць. На агульных сабраннях абсуждаюцца розные важные справы и законы. Найбольшая праца—ў камисиях думских: тут прыгатауляюцца ўсе новые законы, пункт за пунктам.

Завесьци новые парадки—гэта значыць устанавиць новые законы. Але новые законы у адзин дзень не напишэш. Першая Дума зрабила вялыкую работу: яна намецила многа новых законоў и пачала их апрацовываць. Алеж яе разагнали, не дали скончыць работу гэтую

Цяперашняя Дума карыстае з працы першэй Думы и вядзе яе далей. Ня ведаем тольки, чы удасцца и ей споўниць свае жадання.

Глаўны министэр Столыпин ўжо робиць ёй перашкоды. Дума ў камисии свае закликала многа лепшых и мудрэйших вучоных людзей, каб яны памагали дэпутатам у працы их над новыми законами, каб написаць их скора и мудра, бо народ нецерпелива чэкае ад Думы новых парадкоў. Алеж министэр Столыпин забараниў прымаць ў камисии людзей са стараны. Прадседацель Думы атказаў яму, што па закону ён ня мае права забараняць гэтаго. Тады пан Столыпин прыказаў палицыи проста не пушчаць вучоных тых у камисии. И палиция споўнила прыказ министра, не пусьцила их.

Цяжка працаваць дэпутатам пры таких паступках правицельства, але яны помняць, што народу ешчэ цяжэй будзе жыць, кали Думу изноў разгоняць. И дзеля таго яны церпяць....

Цэна асобнаго нумэру 5 кап

Год други. Вильня 20 апрыля 1907 г. № 16.

Цэна з перэсылкою и дастаукою да хаты: на 1 г.— 3 р., на 6 мес.— 1 р. 50 кап., на 3 м.—75 к., на 1 мес.—25 к. Без дастауки и нерэсылки: на 1 г.— 2 р. 40 к., на 6 м.— 1 р. 20 к., на 3 мес.—60 к., на 1 мес.—20 к. Загранiцаю: на 1 г.— 4 р., на 6 мес.— 2 р., на 3 мес.— 1 р. Перэмена адрэсу — 20 кап.

# Наша Нива

## Першая Беларуская Газэта з Рысунками

**Выходзиць раз у тыдзень рускими и польскими литэрами.**

Падписка прынимаецца и прадаюцца атдзельныи нумэры газэты 1) У Кант. „Нашай Нивы“ — Завальная вулица дом № 45, 2) У Книгарни „Знанне“—Георгиески праспэкт дом № 14. 3) У Книгарни Литоуской М. Пясецкой — Шляпэ, Доминиканская вулица дом № 13.

Адрэс рэдакцыи и администрацыи: **Вильня, Завальная вулица, дом № 45.**

Абъяулення прынимаюцца на наседней страницы па 20 кап. за линейку малыми литэрами. Рукаписы и корэспондэнцыи, присланные у рэдакцыю, мусяць быць чытэльна написаны з праудзивою фамилею и адрэсом таго, хто яе прысылае. Можна также падписаць прозвищэ разом з фамилею, хто незахочэ, каб была надрукована праудзивая фамилия. Адрэс и фамилия только для ведама рэдакцыи.

*Дзеля таго, што у сьвята работники ня будуць працаваць у друкарни цэлы тыдзень, чародны нумэр НАШАЕ НИВЫ выйдзе 4 мая и будзе павеличэны. Зараз пасьля Вялiкадня (26 апрыля) Рэдакция и Кантора НАШАЕ НИВЫ пераменiць кватэру и будзе памешчацца на* **Завальнай вулицы (вугол Троцкай) дом № 30.**

# Песьня кале калыски.

Аа—аа, мой сынок!
Аа—аа, милы!
Не крычы, не плач: дарэмна
Ты патрацiш силы.
А без силы мой сынок,
Жыць на свеци трудна...
Ой, ты, вецер, не шуми,
Не сьпевай так нудна!
Спаць Михаську не даеш...
Сьпи, мой сын маленьки!
Я цябе пакалышу—
Ай, люли-люленьки!
Што цябе чакае, сын?
Што твая за доля?
Мо, як бацька, будеш лиць
Пот ў чужое поле?
Будзеш ў летку ўсё хадзиць
На плыты, на згоны.
С Коўна матцэ прынясеш
Хоць гарсэт чырвоны.
А то можэ купиць пан
Твае руки, силы?
Поднявольным будзеш ты,
Сын мой, да магилы!
А мо пойдзеш ў школу ты,
Будзеш чалавекам:
Без вучэння кепска жыць
Гэтым трудным векам.
Кинеш матку, па чужых
Ты па людзях пойдзеш
И на шчасьце нападзеш,
Долю сваю нойдзеш?
Ўспомниш матку ты сваю,
Як цябе люляла,
Як табе у ноч не раз
Песьни я сьпевала.
И гасьцинцу мне прышлеш...
От я буду рада!
Пазайдросьциць вось тагды
Мне уся грамада!
Аа, аа, мой сынок!
Люли-люли, милы!
Ой, не плач ты, не крычы,
Набирайся силы...

Якуб Колас.

*Вильня 20 апрыля.*

17 апрыля Гасударственая Дума прызнала правицельству тую личбу салдат, катораю яно запрасила на 1907 год. З бычшых на заседанню дэпутатоў 193 падали голасы за казённы праект, а 123 стаяли процiў. Працiўники призназння были социалисты и часць трудавикоў. Набор гэтаго году за малым не дабираецца да поў-мильёну (463 тысячы). Гэтульки близка навабранцоў брали подчас вайны, и затым добрая часьцина дэпутатоў хацела паменшыць набор. Калиб Дума да 1-го мая не разабра-

# ПЛЫТНИКИ.

Клунак за плечами,
Кий ў руках хваёвы,—
Валиць чарадами
Бедны люд вёсковы.
Босые их ноги,
Твар их загарэлы;
Кажушок убоги,
Чуць прыкрыты целы.
Ззаду ледзь ступае,
Хлеб вязе кабыла;
Нукае, гукае
На яе Кирыла...
Ярка сьвециць сонцэ,
Лист не скалыхнецца;
Горача безконца,
Пот на землю льецца.
Срэбрам адливае,
Як люстэрка, Нёман.
З ранку не сцихае
Над вадою гоман.
Тольки крыки чуеш:

„Вазьми на „барбару“!
„Чаму не тарнуеш?!
„Гад! пабью ўсю хару!
„Закидай шырыгу!
„Папхни прысам ў лива!
„Варушыся, падла,
„Ня сьпи ў шапку! жыва!“
И задник без толку
Па плыту лятае,
Згубиў ўсю знароўку—
Не ў той бок трымае.
Гнецца плыт дугою,
Ў бераг яго клониць;
Быстраю вадою,
Як вужаку, ломиць.
Вось на мель ўзагнали.
Крык, сярдиты голас.
Портки паскидали,
Ўсе ў вадзе па пояс.
Бэмы ўсе пабрали.
„Ррразам, хлопцы! ррразам!

„Ну, ешчэ! што стали?
„Ну, ешчэ прыляжэм!“
Вецер загуляе—
Хвойник, лозы гнуцца;
Плытник спачывае,
Як сабака ў будцэ.
Гнецца плытник ў поли,
Мёрзьне ён у холад;
Знае ён нядолю,
Знае ён и голад.
Што ж? беднота гониць!
Тольки силы трациш;
Тольки косьци ломиць,
Ях хваробу схвациш...

* * *

Эх, ты доля, доля!
Голад ты, бяднота!
Не свая тут воля,
Не свая ахвота!...

*Якуб Колас.*

**Барбара** — тоўстая вяроўка з лазы, каторую затрымываюць плыт;
**тарнуеш** — затрымываеш барбараю плыт, ўбиваючы на берази кол, прывязаны да канца барбары;
**шырыга** — тоўстае доўгае бервяно, каторае з сярэдзины плыта спускаюць на дно; яно умацовано да плыта, упираецца ў дно и спыняе плыт;
**прыс** — тонкая жэрдка, каторую упираюцца ў дно и кируюць плыт,
**задник** — памоцник главнаго плытника.
Ўсё гэта словы, каторых ужываюць плытники на Нёмани.

# З прошлаго году.

(З журн. „Былое“ за 1907 г.—С. Прококовича).

Зямельны рух сярод мужыкоў не зацихаў ў Расеи николи; праўды, мужыки бунтавалися дзе-не-дзе и пасьля „усьмирэння“ да часу зацихали. А што гэтая „зацишка“ была не праўдзивая, а прымушэная, можна бачыць з таго, што разам з рэволюцией ў 1905 гаду паднялася мала не ўся мужыцкая Расея. Мужыки мала думали аб тым, чаго яны паднимаюцца, чаго дабиваюцца и чаго павинны дабицца. Яны тольки чули, што яны галодные, бачыли, што у памешчыкоў поўные сьвирны збожа и шмат усякаго другога дибра, и, як галодны кадаецца да яды, так яны кинулися да памешчыцких маёнткоў. Пачали яны разбираць памешчыцкае дабро; хапаў ўсяки, хто кольки здужае, багацейшые набирали больш, бяднейшые — менш, а ўсё тое, чаго не забярэш, або марудна забираць — палили разам з дварами. Мала было мужыкам карысьци з такога безталковаго зямельнаго руху: праз тое, што вельми многа дабра марнавалося, шмат гдзе и мужыкам дрэнна прыходзилося — купиць хлеба ци зерня на насенне не было гдзе, заработку — ани звання, а и пустой зямли ўсё роўна ня можна было забраць; дый ўсе гэтакие грабежы канчалися крываваю расправаю над мужыками.

Тады патроху зразумели мужыки, што грабежом ды гвалтам не здалеюць ничога дабицца ад памешчыкоў. Дый самы рух гэты пачаў сцихаць. Пазнаўшы абмылки свае, стали мужыки больш думаць, што им па-праўдзи патрэбна и як рабиць, каб дабицца свайго. Тады злажыўся и „ўсерасейски мужыцки саюз.“

# Аб народным вучыцелю.

„Каб знiштожыць турму, збудуйце школу“. Так сказаў старонник народнаго абразавання.

Ўсякi, хто мае на плечах галаву, а не гарбуз, скажэ, што гэта праўда.

Тольки у нас усё робицца шыварат на выварат. тольки у нас жыцце идзе не так, як у людзей, а неяк рылам на патылицу, и гэтые праўдзивые словы сябра народнаго прасьвяшчэння у нас не знаходзяць падцвярджэння. Пры цяперашних нашых парадках, справедливей, пры цяперашней безлабершчыни нашаго жыцця свабодная народная школа тольки можэ пабольшыць турмаў. Ласьне мала павыганяли лепшых вучэникоў са ўсяких школаў? Ласьне мала вучыцелёў сядзиць па турмах? Ласьне их мала пакутуе ў ссылках па далёких акраинах Расеи? А кольки вучыцелёў без працы ды заробку, галодных, абношэных, змардованых, без жаласьци выкинутых ў ахвяру нуды и пакуты?! А за што? За тое, што вучыцель асьмелиўся думаць иначэй, як прыказвае яму цыркуляр начальства; за тое, што ён памкнуўся пралиць луч сьвета ў цёмную вёску,—пасьмеў выйсьци з вузких асадак министэрскай праграмы, каторую сам министэр асудзиў ў сваей дэклярации; за тое, што народ стаў верыць и любиць вучыцеля, и вучыцель хацеў падаць руку свайму сляпому брату-мужыку; за тое, што вучыцель пазнаў ў сабе чалавека и заявиў аб тых правох чалавечых, каторые Бог даў кожнаму; за тое, што ён стаў абцираць свой заплёваны твар...

А тые, што жывуць ешчэ ў школах, тые, каторых не зьмела караючая рука дзикаго гвалта? Я не гавару аб тых, каторые цалуюць папоўские руки, чыя галава низка клонецца прэд цэшкаю станавого пристава, чыя рука моцна сьцискае руку „каўнера“ и чырвоных шнуроў; аб тых, у цели каторых свабодна жыве дух чорнасоценцоў—Крушэвана и монаха Илиодора. Я пытаю аб народных вучыцелёх ў шыроким значэнню гэтых двух сьвятых слоў. Як жывуць яны? я пытаю.

Вучыцель николи ня бачыў и ня бачыць дабра. Ўсё яго жыцце—адна пакута. И хто над им ня мае воли? Кольки у яго начальства ўсякаго! Поп, иисар, старшына, стараста, вурадник, стражник... Цьфу! аж гаварыць брыдка ды и язык зломиш, поки их пераличыш. И кожнае гэтае начальства личыць сваим правам так ци иначэй скубянуць вучыцеля, а то и укусиць яго. И вучыцеля скубуць и кусаюць, а яго доля — маўчы и цярпи. А вырвецца крык болю з глыбины змучэнай душы — нихто яго не пачуе, ничыйго сэрца ён не зачэпиць.

Кали-ж дачакаеш ты лепшай доли, пакутник-вучыцель, чорны волик на пустой ниве народнаго абразавання?

**К. Наднеманец.**



# СЯБРОМ.

(Народным вучыцелём, што пацярпели за свабоду)

Ой, вы, сябры маи милы!
Гдзе цяпер вы, дарагие?
Ци схавали свае силы?
Ци ёсць думки маладые?

Тые думки, тые мысьли,
Што нам душы валнавали,
З-за каторых хмары зьвисли,
За што з нивы нас сарвали?

Нас з народнай благой нивы
Разагнали па ўсим сьвеце...
Ци здаровы вы, ци жывы?
Гдзе вы, хлопцы? адгукнеце!

Ци зьбяромся зноў кали мы
Ў нашым бедным родным краю,
Як бы птушки пасьля зимы?
Гдзе вы, хлопцы? я гукаю.

Не, ня праўда! Быць ня можэ,
Каб ня грэла цёпла сонцэ.
Наша праўда нам паможэ—
Блисьне сьвет и к нам ў ваконцэ!

Якуб Колас.

Цэна асобнаго нумэру 5 кап.

Год други. Вильня 1 (14) юня 1907 г. № 21.

# Наша Нива

Першая Беларуская Газэта з Рысунками

Выходзиць раз у тыдзень рускими и польскими литэрами.

Цэна з перасылкою и дастаукою да хаты: на 1 г.— 3 р., на 6 мес.— 1 р. 50 кап., на 3 м.—75 к., на 1 мес. — 25 к. Без дастауки и перасылки: на 1 г.— 2 р. 40 к., на 6 м.— 1 р. 20 к., на 3 мес. — 60 к., на 1 мес.—20 к. За границаю: на 1 г.— 4 р., на 6 мес. — 2 р., на 3 мес. — 1 р. Перэмена адрэсу — 20 кап.

Падписка прынимаецца и прадаюцца атдзельные: нумэры газэты 1) У Кант. „Нашай Нивы“ — Завальная вулица дом № 30, 2) У Книгарни „Знание“— Георгиески проспэкт дом № 14. 3) У Книгарни Литоуской М. Пясэцкой — Шлапэлис, Доминиканская вулица дом № 13.

Адрэс рэдакцыи и администрацыи: Вильня, Завальная вулица, дом № 30.

Абъуленния прынимаюцца на паследней страницы па 20 кап. за линейку малыми литэрами. Рукаписы и корэспондэнции, прысланные у рэдакцию, мусяць быць чытательна написаны з праудзивою фамилею и адрэсом таго, хто яе прысылае. Можна также надписаць прозвищэ разом з фамилею, хто незахочэ, каб была надрукована праудзивая фамилия. Адрэс и фамилия тольки для ведама рэдакцыи.

## Роднае поле.

Поле убогае, поле пешчанае!
Нудна лягло ты меж гор и лясоў!
Потам абмытае, ўдоўж паараное...
Кольки каменёў, а кольки пяскоў!...
С пылам сыпучым, с песком и с туманами
Вецер над полем не раз пралетаў,—
Нудные песьни не раз за курганами,
Горкие песьни у суш ён спеваў.

Многа тут працы и поту гарачаго,
Силы, здароўя мужык палажыў!
Жнива надыдзе—и жаць нам нима чаго—
Ниву пустую драсён заглушыў.
Поле убогае, поле пешчанае!
Кепска ты плацишь за працу людзям.
Потам ты змыта, слезьми абливанае,
Дзикае зелье прыносиш ты нам!

Якуб Колас.

## Гасударственая дума.

### Заседанне 24 мая.

На гэтым заседанни барон Нольдэ даваў разъясненне на „запрос“ Думы аб незаконных паступках карацельнаго атрада ў Ланчхутах Кутаиской губ.

Барон Нольдэ сказаў, што пасля таго, як паступиў гэты запрос, ён запытаў наместника Яго Вяличэства на Каўказе. Наместник адказаў, што ниякаго штрафа на жыцелёў вёски Ланчхуты ён у гэтым гаду не накладаў. А прычына для запроса Думы была, мусиць, тая, што 7 чалавек гэтай вёски уцякли ад воинской службы. Апроч таго, на жыцелёх вёски Ланчхуты ляжыць недоимки 5000 руб. Месцовы прыстаў папрасиў начальника воинскаго атрада падпалкоўника Прыходзько, каб той памог яму сабраць недоимку з мужыкоў.

Прыходзько сабраў сход и патрэбаваў, каб выдали 7 чалавек, што уцякли ад прызаву, аддали недоимки и кинули рабиць самавольные парубки казённых лясоў. Войска, каторым камандаваў падпалкоўник Прыходзько, кармилася на кошт месцовых жыцелёў. А на шчот 47 тысячоў руб., то гэтые грошы ўзыскиваюцца казённым лясничым з мужыкоў за парубку

юць прэдстаўляць патрэбы сваих наций. Па некаторых месцох, дзе народ ешчэ не дайшоў „гражданственности“ (пачуця грамадзкаго), выбары не адбудуцца.

Вось якие перамены ўводзиць манифэст 3 юня. Як пойдуць выбары пры новых парадках, якие людзи пападуць ў новую—трэцюю Думу,—видаць будзе тады, як разгледзим той парадак выбароў. Тады и пазнаем, якой карысьци чакаць ад новай Думы.



# ХМАРЫ.



Як лихие думки-мысьли,
Над зямлёю хмары зьвисли.
Ой вы, хмары! што вы стали?
Што вы неба нам заслали?
Скрыли сонцэ, чарадою
Таўчэцёся над зямлёю?
Чамуж ў летку над палями
Не лилися вы слезами?

— А нас ветры так сушыли!
Чаму збожа не мачыли?
Як гарэли нашы нивы,
Тагды, хмары, гдзе были вы?
Мы на неба пазирали,
Вокам, хмары, вас шукали.
Сохла праца наша ў поли...
— Як мы, хмары, вы—без воли!

Якуб Колас.



# ГАСУДАРСТВЕНАЯ ДУМА.



## Аб заседанни 1 чэрвеня (юня).

Перад заседаннем па карыдорах и ў пакоях думских пайшли слухи, што Думу распускаюць. Пасьля даведалися, што глаўны министэр Столыпин прасиў, каб заседанне сягоньняшняе было тайнае, бо ад имяни правицельства будзе прачытана неякая вельми важная рэч.

Видаць было, што и праўды нешта важнае мае адбыцца. На дварэ Таўрыцкаго палацу, гдзе засядала Дума, ўжо ад ранку пастаўлены казаки и войска. А трэцей гадзине паказался палицмэйстэр, каторы аб чым-то радзиўся пациху з начальникам „ахраны“ палацу—баронам Остэн-Сакенам.

Ў глаўнай сали задзваниў званок прадседацеля Думы. Ўсе дэпутаты пацягнулися туды на заседанне.

Журналистоў (што пишуць у газэты) на заседанне не дапусьцили. Ўсе яны асталися ў карыдорах—чэкаць весьцей ад дэпутатоў.

Прайшло крыху часу. Выходзяць то той, то други дэпутат. Кажуць, што министэр Столыпин неяким неспакойным голасом абъявиў Думе, што зараз пракурор судзебнай палаты прачытае пастанаўленне следовацеля для важнейшых дзел нры Пецербурским Акружным Судзе. Там ён трэбуе, каб з Думы выдалили 55 дэпутатоў-социалдэмократоў и каб з-памеж их 16 чалавек Дума дазволила зараз-жэ арыштаваць и пасадзиць ў турму.

Дума пастанавила выбраць ў той-жэ дзень камисию и наказала ёй праз 24 гадзины добра разгледзиць справу аб 55 дэпутатах и пастанаўленне судзебнай власьци.

## Астатняе (53) заседанне Г. Думы 2 чэрвеня (юня).

Камисия, што прыгатаўляла закон аб новых судох, заявила, што яна ўжо скончыла сваю работу. Закон аб судох ўжо написаны, и цяпер трэба, каб Дума яго зацьвярдзила.

Дэпутаты приступили да разбору праекта камисии. Тым часам весць аб тым, што Думу разпусцяць, дашла да ўсих. Тады ўсе социалисты и трудавики пачали дамагацца, каб скарэй скарэй скончыць разбор

Цэна асобнаго нумэру 5 кап

Год други. Вильня 6 (19) липца 1907 г. № 24.

Цэна з перасылкою и дастаукою да хаты: на 1 г.— 3 р., на 6 мес.— 1 р. 50 кап., на 3 м.— 75 к., на 1 мес. — 25 к. Без дастаукп и перасылки: на 1 г. — 2 р. 40 к., на 6 м.— 1 р. 20 к., на 3 мес. — 60 к., на 1 мес.—20 к. Заграницаю: на 1 г.— 4 р., на 6 мес. — 2 р., на 3 мес. — 1 р. Перэмена адрэсу — 20 кап.

# Наша Нива

## Перщая Беларуская Газэта з Рысунками

**Выходзиць раз у тыдзень рускими и польскими литэрами.**

Падписка прынимаецца и прадаюцца атдзельные нумэры газэты 1) У Кант. „Нашай Нивы“ — Завальная вулица дом № 30, 2) У Книгарни „Знание“— Георгиески проспэкт дом № 14. 3) У Книгарни Литоуской М. Пясэцкой — Шлапэлис, Доминиканская вулица дом № 13.

Адрэс рэдакцип и администрации: **Вильня, Завальная вулица, дом № 30.**

Абъяуленя прынимаюцца на паследней страницы на 20 кап. за линейку малыми литэрами. Рукаписы и корэспондэнции, прысланные у рэдакцию, мусяць быць чытатэльна написаны з праудзивою фамильею и адрэсом таго, хто ие прысылае. Можна такжэ падписаць прозвищэ разом з фамильею, хто незахочэ, каб была надрукована праудзивая фамилия. Адрэс и фамилия тольки для ведама рэдакции.

**Ад Рэдакции.** *У летку „Наша Нива“ будзе выхадзиць не акуратне што-тыдзень, але и ня менш, як раз у два тыдни. Падписчыком будзе прадоужэны тэрмин падписки так, каб яны дастали усе нумэры, што им выпадаюць, личучы па чатыры на месяц.*

## ЛЕТА.

Эх, ты, лета гарачае, бурнае!
Ажыўляеш ты поле и луг.
Добра, думки накинуўшы хмурные,
На сьвет выйсьци ды глянуць вакруг.
Шум стаиць над лясистай дуброваю,
Бытцам рада аб нечым идзе;
Рэчка, ў прысадзь схаваўшысь альховую,
Бурлиць; рыбка плюскочэ ў вадзе.
Ў збожэ ўсякае нива прыбралася —
Хараства там якога нима! —
Як зялёны дыван разпласталася.
Шопат нейки плыве ад жытца,
Колас з коласом гутарку дзиўную
Завяли — мо на хмары злуюць?
Песьни жаваранкоў пералиўные
Замаркоцицца тут не даюць.
А лаги, а гумнишчы, аселицы?
Вось абняў, прытулиўся, ляжы....
Хто з вас, хто нелюбиць асьмелицца
Ў летку сьвет — ад мяжы да мяжы?
..... Дай жэ, лета, мне веру магучую,
Што кались сваю долю найду,
Дай мне песьни нець, силу жывучую
Дай працивицца крыўдзе и злу!

Янук Купала.

## Ешчэ аб забицццю дэпутата пэршай Думы Иоллоса.

У Финляндии идзе суд над Тополевым, членом „союза русскаго народа“. Винавацяць яго ў тым, што гэта ён забиў быўшаго дэпутата першай Думы, Гэрцэнштэйна, каторы наймацней дамагаўся ў Думе зямли для мужыкоў. Незалежны финляндзки суд, кали прызнае Тополева винаватым, то напэўне як трэба пакарае гэтаго безстыднаго слугу чорнасоценцоў.

А изноў адкрылась ешчэ адна гэтакая „работа“ чорнае сотни. Не так даўно забили ў Маскве другога дэпутата — Иоллоса, таварыша Гэрцэнштэйна ў працы яго над па-

трэцюю Думу ня можэ папасць ниводзин мужык беззямельны, а так сама и той, што выходзиць ци едзе куды на заработки.—Як у губэрни найбольш силы мець будуць памешчыки разам з багатшыми гарадзкими выбаршчыками, так и ў воласьци найбольш правоў даецца гаспадаром ды з зямлёю...

* *
*

Як мы ўжо писали ў прошлым нумэры, ў Виленскай губэрни *руские* выбираюць асобне ад других *двух руских дэпутатоў*. За „руских" паличыли и нашых праваслаўных беларусоў. Гэтак беларусы-каталики выбираюць разам з усеми, а праваслаўные—асобне, з рускими, значыць, з *лютэранами, стараверами*. Па новаму закону, списки гэтаких *руских* выбаршчыкоў робяць валасные праўлення, а пасьля праверяюць их сьвяшчэники месцовых праваслаўных парафий.—Упоўнамочэных ад воласьци ад праваслаўных выбираюць не дзясяцидворные, а *усе* праваслаўные мужыки, што записаны ў выбарные списки. Каталики выбираюць тольки праз дзесяцидворных.

Хаця и раздзялили мужыкоў беларуских на каталикоў и праваслаўных, ўсёж-таки не павинны яны забывацца, што яны—браты, сыны адной маци-зямли Беларускай. *Адны у их патрэбы, адна доля-нядоля!..*



*

Што вы, хлопцы пахмурнели,
Як каго вы пахавали?
Ци нешчасьця вас здалели,
Ци вас думки спанавали?

—

Плюньце, хлопцы! Засьпеваймо,
Аж каб вокны задрыжали!
Ва ўсе грудзи загукаймо,
Каб ўсе думки паўцекали!

*

Ци-ж мы будзем вечна гнуцца,
Апускаць ў нядоли руки? —
Нехай сьлёзы больш ня льюцца!
Нехай нас ня знаюць муки!

За работу жыва, жыва!
Каб нас доля не кидала,
Каб ня сохла наша нива,
Каб нуда нас не чэпала!...

*Якуб Колас.*



# ЛИПЫ.



Што шэпчуць старые липы ў летнюю ясную ночку? Што неспакойны яны?

Вяликие, старые липы! Вы веки стаяли спакойна над белым панским палацом! Што-ж зашэпталися вы ў гэту цёплую летнюю ноч? Ци шкода вам лисьцёў, што скора спадуць з вас на землю сырую? Ци страшны зимовы марозы, што з ветрам паўночным скора заглянуць да стараго саду? Веки стаяли вы—веки маўчали, што-ж зашэптались так неспакойна?

И шэпчуць старые вяликие липы, шэпчуць да тых неспакойных людзей, што ў белым палацу з трывогаю ў сэрцу прыслухвались к шуму дзярэў:

— Што-ж вы дрыжыце ад нашаго шопату? Чаго вы спужалися, гардые людзи?—Нас пасадзили вашы прадзеды; нас зьберагали ў халодную зиму, нас паливали ў гарачае лета. Мы падымались выжэй и выжэй, и, стаўшы вяликими, кинули вокам далёка па сьвету. И што-ж мы там бачыли? Бачым мы вёску, што ў грази тоне; бачым мы там мужыка, як падрываецца ў працы. На пот и на кроў глянули мы и задрыжали сваими листочками и зашэптали тады неспакойна над вашым белым домам: „Гляньце-ж вы, людзи, як брат ваш пакутуе; гляньце вы, сытые, як там мруць хворые, гине мужык працовиты. Гляньце, як ўдовы, сироты марнеюць; гляньце, як крыўда, непраўда пануе!..."

— Так мы шэптали, а вы ня чули нашае мовы; вы не прызнали ў галодным брата свайго. И зноў мы вам шэпчэм, гардые людзи: „Ўсе людзи—роўные, ўсе—браты родные; у ўсих адна маци — зямля. И бедны хочэ так жыць, як вы жывецё, и трэбуець права на жыцце, што маеце вы".

— Вы задрыжали, бо шкода вам панства и шкода вам пышных палацоў. Дык не забудзьце-ж, хто дом збудаваў вам, хто плугам жалезным вам землю ўзараў!...

Вось як шэптали высокие липы, вось што казали у ясную ночку.

*Жытомирэц*

**Цэна асобнаго нумэру 5 кап**

Год други. Вильня 20 липца 1907 г. № 25.

Цэна з перасылкою и дастаукою да хаты: на 1 г.—3 р., на 6 мес.—1 р. 50 кап., на 3 м.—75 к., на 1 мес. — 25 к. Без дастаукн п перасылки: на 1 г.—2 р. 40 к., на 6 м.—1 р. 20 к., на 3 мес.—60 к., на 1 мес.—20 к. За границаю: на 1 г.—4 р., на 6 мес.—2 р., на 3 мес.—1 р. Перамена адрэсу — 20 кап.

# Наша Нива

**Першая Беларуская Газэта з Рысунками**

**Выходзиць раз у тыдзень рускими и польскими литэрами.**

Падписка прынимаецца и прадаюцца атдзельные нумэры газэты 1) У Кант. „Нашай Нивы“ — Завальная вулица дом № 30, 2) У Книгарни „Знание“ — Георгиески проспект дом № 14 3) У Книгарни Литоуской М. Пясэцкой — Шлапэлис, Доминиканская вулица дом № 13.

Адрэс рэдакции и администрации: **Вильня, Завальная вулица, дом № 30.**

Абъяулення прынимаюцца на паследней страницы па 20 кап. за линейку малыми литэрами. Рукаписы и корэспондэнции, прысланные у рэдакцию, мусяць быць чытэтэльна написаны з праудзивою фамильею и адрэсом таго, хто яе прысылае. Можна такжэ надписаць прозвища разом з фамильею, хто незахочэ, каб была надрукована праудзивая фамилия. Адрэс и фамилия тольки для ведама рэдакции.

**Ад рэдакции:** *Усим, хто падписауся на „Нашу Ниву“ на поу года (личучы ад Новаго Года), прыпаминаем, што падписка канчаецца з № 26 Хто хочэ атрымливаць газэту далей, нехай прысылае грошы скарэй, каб не было перарыву у высыланню.*

## МУЖЫЧАЯ НИВА.

На мужычым поли
Цягнецца палоска...
Зельле яе глушыць,
Абвила бярозка,
Ветрам паламала,
Дождждыком прыбила;
Навальница з градам
Коласы скруцила.
Синяя валошка,
Травы разраслися,
Палыны на межах
Густа уплелися.
Ой, мужычая нива!
Ты—сиротка ў поли:
Нема табе шчасьця,
Нема табе доли!
Ой, ты, нива наша!
Ци-ж ты не арана?
Ци-ж мужычым потам
Ты не паливана?
Ци то кепска сонцэ
Сьвециць над табою,
Што зрасла ты густа
Дзикаю травою?
Заплыли вадою
Ўсе тваи разоры,
Пакапали мышы
На загонах норы.
Птушки ў Божым неби
Плачуць над табою,
Што зрасла ты, нива,
Палыном, травою....
На мужычэй ниве
Коласы пустые....
Ци ня шкодны полю
Сьлёзы вы людзкие?!

*Якуб Колас.*

Цэна асобнаго нумэру 5 кап.

Год други. Вильня 3 (16) серпеня 1907 г. № 26.

Цэна з перэсылкою и дастаукою да хаты: на 1 г.— 3 р., на 6 мес.— 1 р. 50 кап., на 3 м.—75 к., на 1 мес.— 25 к. Без дастауки и перэсылки: на 1 г.— 2 р. 40 к., на 6 м.— 1 р. 20 к., на 3 мес.— 60 к., на 1 мес.—20 к. За граніцаю: на 1 г.— 4 р., на 6 мес.— 2 р., на 3 мес.— 1 р. Перэмена адрэсу — 20 кап.

# Наша Нива

Першая Беларуская Газэта з Рысунками

**Выходзиць раз у тыдзень рускими и польскими литэрами.**

Падписка прынимаецца и прадаюцца атдзельные нумэры газэты 1) У Канц. „Нашай Нивы“ — Завальная вулица дом № 30, 2) У Книгарни „Знание“— Георгиески проспэкт дом № 14. 3) У Книгарни Литоуской М. Пясэцкой — Шлапэлис, Доминиканская вулица дом № 13.

Адрэс рэдакціи и администрацыи: **Вильня, Завальная вулица, дом № 30.**

Абъяуленьня прынимаюцца на паследней страницы па 20 кап. за линейку малыми литэрами. Рукаписы и корэспондэнцыи, прысланные у рэдакцию, мусяць быць чытатэльна написаны з праудзивою фамильею и адрэсом таго, хто яе прысылае. Можна такжэ надписаць прозвищэ разом з фамильею, хто незахочэ, каб была надрукована праудзивая фамилия. Адрэс и фамилия тольки для ведама рэдакции.

**Ад рэдакции:** *Усим, хто падписауся на „Нашу Ниву“ на поу года (личучы ад Новаго Года), прыпаминаем, што падписка скончылася з № 26. Хто хочэ атрымываць газэту далей, нехай прысылае грошы скарэй, каб не было перарыву у высыланню.*

# На перакрэстку.

Ты скажы мне, цьма глухая:
Доўга будзеш ты ляжаць?
Доўга будзе думка злая
Сэрцэ жалем калыхаць?..
Не шуми ты, лес высоки,
Нудных песень не сьпевай;
Дзён шчасливўшых, дзён далёких
Ты мне, лес, не ўспаминай!
Не видаць мае дароги. .
[illegible]ы, лес, балоты, гразь...
Кольки смутку и трывоги
Ў гэты цяжки, нудны час!
Гдзе-ж, дарога ты другая?
Я стаю адзин, адзин...
Ноч ляжыць вакруг глухая.
Ци-ж то сьвет зышоўся ў клин?
Ты скажы мне, цьма глухая:
Доўга будзеш ты ляжаць?
Доўга будзе думка злая
Сэрцэ жалем калыхаць?..

Якуб Колас.

## Зьезд так-званаго „Союза Русскаго Народа“.

У Маскве адбыўся зьезд „союза русскаго народа“. Сабралося каля 50 „истинно-русских людзей“ —найбольш з Пецербурга и Масквы— и радзилися аб выбарах ў Трэцюю Думу ды аб тым, як звесьци са сьвету „крамолу“.

Аб Думе гаварыли вось гэтак. Дрэнна, што народ праз сваих выбарных дэпутатоў мае права писаць сабе законы, якие сам хочэ, мешацца ў гасударственые справы ды трэбоваць атчоту ад министроў и казны. Гэтаго далей, па ихнему, быць не павинна: народные дэпутаты могуць зьбирацца тольки каб даваць сваю раду правицельству, ка-

**Цэна асобнаго нумэру 5 кап.**

Год други. Вильня 17 (30) серпеня 1907 г. № 27.

# Наша Нива

## Першая Беларуская Газэта з Рысунками

**Выходзиць раз у тыдзень рускими и польскими литэрами.**

Цэна з перэсылкою и дастаукою да хаты: на 1 г.—3 р., на 6 мес.—1 р. 50 кап., на 3 м.—75 к., на 1 мес.—25 к. Без дастауки и перэсылки: на 1 г.—2 р. 40 к., на 6 м.—1 р. 20 к., на 3 мес.—60 к., на 1 мес.—20 к. За границаю: на 1 г.—4 р., на 6 мес.—2 р., на 3 мес.—1 р. Перэмена адрэсу—20 кап.

Падписка прынимаецца и прадаюцца атдзельные: нумэры газэты 1) У Кант. „Нашай Нивы“—Завальная вулица дом № 30, 2) У Книгарни „Знание“—Георгиески проспэкт дом № 14 3) У Книгарни Литоуской М. Пясэцкой—Шлапэлис, Доминиканская вулица дом № 13.

Адрэс рэдакции и администрации: **Вильня, Завальная вулица, дом № 30.**



**Ад рэдакции:** *Усим, хто падписауся на „Нашу Ниву“ на поу года (личучы ад Новаго Года), прыпаминаем, што падписка скончылася з № 26 Хто хочэ атрымываць газэту далей, нехай прысылае грошы скарэй, каб не было перарыву у высыланню.*



## ВУЧЫСЯ!...



Вучыся, нябожэ, вучэнне паможэ
Змагацца з нядолей, з няволей...
Што мучыць сягоння, што думки
трывожэ,
—Збяжыць и ня прыдзе николи!
Жаль згине, як мара; ня будзеш
низдарай,
Нигдзе и ни ў чым не заблудзиш;
Ты праўду ў няпраўдзе, як сонцэ
меж хмараў,
Пазнаеш, раз цёмен ня будзеш.
Такая прынука, як труд и навука,
Ци-ж можэ нам сил недадаци?
С такими сябрами, знай, будзе ня
штука
И горэ сваё зваеваци.

Паўнейшай адрынка, сыцейшай
скацинка,
Ой, будзе—а тольки вазьмися!...
И нойдзецца ў працы аддухи га-
дзинка,
И ў крыўду ўрагом не дасися.
Крыўдзицелёў зможэш, сьлед вечны
праложыш
И к доли, и к воли, и к славе...
Адно ты прачнися, вучыся, як можэш—
Ци дома, ци на школьнай лаве!
Ўсе людзи значэнне пазнали вучэння,
Адзин тольки ты ани дбаеш!
Цямней, беларусе, ты ночки асенняй
И шчасьце-ж такое ты маеш....

**Янук Купала.**



## Як живе амэрыкански рабочы.

Пэўне нима таких людзей, што ня чули аб Амэрыцэ. У Амэрыку щто-год то с той, то з другой вёски нехта выбираецца шукаць там сабе лепшаго, свабаднейшаго жыцця; часта можна спаткаць и таких людзей, што праз кольки гадоў жыли и працавали тамака и, сабраўшы грошы, варацилися ў родную старонку. Дык вось и разскажэм цяпер

вецца, стараецца даведацца, адкуль прыйшла гэтая новая беда, але мала хто знае праўдзивые прычыны яе.

А прыйшла тая беда акурат ў тым часи, кали па ўсей Расеи народ рабочы дабиваўся свабодных парадкоў и лепшых варункоў працы и жыцця. Ўсюды тады йшли забастоўки, каторыми рабочые прымушали сваих гаспадароў-фабрыкантоў и памешчыкоў уступиць працоўником. Вось вораги свабоды дураць цяпер голавы цёмным людзям, кажучы, што ў даражыне винаваты тые самые забастоўшчыки. Дык паглядзим, ци ёсць тут хаця трохи праўды.

Трэба ведаць, што цэны тавароў вырасьли не адразу и ня тольки у нас: расьли яны на цэлым сьвеци з году ў год, покуль не дайшли да цяперашних. Ня трудна зразумець, што нашы тутэйшые забастоўки не магли падняць цэны тавароў, напрыклад, у Англии; а у Англии як-раз у апошние годы так сама ўсё падаражэла: ў 1906 гаду цэны падняlися на 10 працэнтоў (па 10 кап. на рубель), а ў 1907 г.—ешчэ больш. Барджджэй рабилося иначэй: як у иншых краёх тавары даражэли, то нашы фабрыканты карыстали з гэтаго и падымали цэны, каб больш зарабиць.

Што фабрыканты и купцы падганяли цэны пасьля забастовак,—гэта праўда. Але-ж праўда и тое, што ихные рабочые и служашчые, каб жыць, мусяць есьци; кали-ж будуць недаедаць, то и працаваць цяжка прыдзецца, бо сил нехват. Дык якое тут дзива, што беднота працоўная дамагаецца большэй платы за працу сваю, каротшаго рабочаго дня?—Ведама, кали фабрыкант ци купец прыкине работнику кольки грошэй, то ад гэтаго даходу менш будзе мець. Вось таму яны, уступаючы забастоўшчыком, назначаюць вяликие цэны за тавары, каб тая уступка вярнулася им, ды каб ешчэ на гэтым зарабиць. Кали уступиў на грыўню, то заробиць за яе—рубель. Значыць, винаваты ня так рабочые, як их гаспадары, бо-ж рабочаму есьци трэба, як и кожнаму, и ад даражыни яму так сама дрэнна. А ешчэ тые фабрыканты и купцы багатшые часта злучаюцца ў саюзы, хэўры (па англицку—*трэсты*) и змаўляюцца, каб без усякай прычыны падняць цэну за яки-кольвечы тавар. И гэтай цэны ўжо моцна трымаюцца, дый, здзираючы скуру з усих, хто тавар той купляць мусиць, складаюць у свае кишэни шмат грошэй.

Таким парадкам забастоўки тут винаваты мала: фабрыканты и купцы ужываюць их больш як прычэпку, каб злажыць вину на рабочых. И покуль будзе у нас трываць цяперашни так-званы *капиталистычны* парадак, гэтаким справам канца не видаць!...

Каб хаця крыху меней залежаць ад гэтых багачоў, трэба и нам злучацца, рабиць свае суполки, таварыства, трэба закладаць свае супольные крамы ўсей грамадою и выписываць гуртам патрэбные тавары. Тады ўсё будзе танней каштаваць, а як гэтаких таварыств будзе шмат, як яны будуць ўсе разам трымацца, то патрапяць ваеваць з даражынёй.

Дык заместа таго, каб винавациць забастоўшчыкоў и рабочых, паклапацицеся лепш самы аб сваих справах. Найбольшая беда—тое, што народ наш цёмны, што не разумее карысьци сваей ды не умее распазнаваць братоў и ворагоў сваих! **А. В. С.**





# НЕ БЯДУЙ!....



Не бядуй, што сонцэ низко,
Што прыходзиць нудны дзень;
Не бядуй, што восень близко
И лягла на землю цень.

Не бядуй што сьнег халодны
Скрые землю ад вачэй:
Не загине край твой родны
Ў цемнаце лихих начэй!

Будзе час и сьнег растане,
Прыдзе к нам изноў вясна;
Циха з неба сонцэ гляне,
Ачуняе старана!

Не бядуй, што цяжка стала
Жыць у вечнай цемнаце,
Што нас доля вечна гнала,
Што жывем у беднаце.

Не бядуй, што звисли хмары,
Што и сонца не видаць;
Не бядуй, што ў ноч пажары
Стали неба заливаць....

— Пойдзе дымам ўсё лихое,
Усё, што душыць нас и гне;
Вер, што жыцце залатое
Будзе ў нашай старане!

**Якуб Колас.**

# Апошняя капейка.

(З рускаго).



У мужычым капшуку лежала адна тольки капейка.

Скуль яна там узялася, дапраўды трудно сказаць. Ци на ажыўленым таргу прадсьвятачным яки имосць абличыўся, ци писар валасны там абмылиўся, рахуючы на таблицы належнасць за падатки, ци год там ураджайливы быў, што прынёс яму зыску той грош—досыць, што на дне палатанай, забруджанай кишэни, разам з крэсивом и скалкаю, валялася счарнеўшая ад часу и паняверки—капейка медзяная.

Ад часу да часу тарандзиць яна тут аб крэсиво, там аб скалку ды мыслиць:

— Малая, мизэрная, выцертая я, як старая падэшва, а усёж ўсе мяне дабиваюцца. Сусед-купец, начальник земски, шынкар казённы, а днёў таму кольки падобна сам министэр скарбу паквапиўся на мяне, але-ж я не паддалася ды выкруцилася!...

Адракуся я усих, але мужыка не пакину и хиба ж разам з им у гроб пайду.

Як доўга яще капейка аб тым думала—ня ведаю, аж заявиўся да мужыка хаўрусник „саюза народа рускаго“.

„Мусиш даць складку, бо видзишь, атрымали мы прыказ з Петярбургу пасылаць нам дапэшы да начальства, няхай нас ад Думы узвольниць. Не намысляйся тольки давай грошы!

Мужык падрапаўся ў галаве и сказаў:

— „Чаго тая дапэша? Кали начальство хочэ нас ад Думы аслабадзиць, дык няхай увальняець бяз складки, гэтаж канец...

— Ну, ну не развадзи, давай грошы!

Мужык патрос грываю, сунуўся у торбу дастаў апошнюю капейку—ды аддаў.

— Ах ты хаме! Тож ты учуцця абывацельскаго маеш ледзь на гэтую капейку!

Але-ж што рабиць, няхай и так будзе... А капейка пакидаючы мужыцкую торбу, думае:

Вярнуся я к мужыку, ўсё адно на службу вярнуся!.. Шмат часу ат тае пары уплыло, а капейка усё па сьвеци туляецца. Была на почци, на тэлеграфи, у каси казённай и павалаклася, распусница, аж ўрешци вярнулася да краю, тольки ж дзиўне свой выгляд змянила: паменшала, падаўжэла и нават имя зменила, на—кулю.

У той час были кули медзяные, бо да алавяных людзи занадта прызвычаилися.

Капейка, здзивёная, разглядалася наукола—вёска знаёмая, народу забралося цьма, як раз, як у дзень сьвятачны, або на набажэнства....

Таварышка з суседняго набою пацииху да яё гаворыць:—Зараз убачыш, як то мы бунт зямельны усьмирäць умеем. Не прыпатрылася задзиўленая капейка адказаць, аж хутка застала упхнутая ў якуюсьць цёмную нару, скуль яшчэ шыбчэй вылецела и сьвету не бачучы, засела у чымсць сукаватым и касцистым. А як апрытамнела, азирнулася наўкола, так ёй сэрцэ з радасци чуць ня выскачыла.

Споўнилася яе даўнейшая думка: прычапилася моцна да касцистай галавы мужычай.

— „Цяпер ужо не разстанемся, стары мой прыяцелю“, шапнула капейка ўгуляючыся глыбока у змаршчэную ды пашарпаную шкуру.

*Упрастаў М.* (Эпока).



# Згнаннику.



Брат маркотны, брат мой бедны!
Гоняць нас, на нас плюють;
Гдзе ни пойдзем—мы чужые,
Мала нас гдзе, брат, паймуць.
Свет шырокий, свет свабодны,
Тольки нам дарог нима:
Зачынили нам ўсе ходы,
Аблегла вакруг нас цьма.
Брат маркотны, брат мой бедны!
Не нудзися дараги!
Будзем плыць памалу далей,
Хоць далёка берагi....
Мысьли праўды, дух свабоды,
Вольны наш народны дух,
Растрасе свае астроги
Ржавы ён парве ланцуг.

Якуб Колас.

# МИЛАСЭРДЗЕ.

(Льва Тотлстого).



Умираў багач....

Цэлае свае жыцце ён тое и рабиў, што зьбираў грошы, бо ўсё характво жыцця ён бачыў тольки ў грашах и ў багацтве. Не раз перэсцерэгали яго и казали, што не ў

## БАБА И КУРЫ.



(Б а й к а).

Пад печкам Баба кур дзержала.
Прайшла зима, вясна настала, —
Квохчуць куры и сакочуць,
У дзверцы, бедные, глядзяць.
Ўжо птушки з вырая ляцяць;
На свет и куры нашы хочуць
Чарвей и крошак пашукаць.
— Пусьци ты, Бабка, их на волю!"
Суседки кажуць Бабе той:
„Нехай пабегаюць па полю —
Ўжо цепло и мошак—рой".
Падпечак Баба адчынила
(А чапелу яна ўзяла).
Паверыў певень—тыц ён рыла!
Па карку Баба так дала,
Што пеўню вочы засланила
И юха з пеўня пацекла.
Пашоў назад мой певень зьбиты,
А куры хоць крычаць,
А ўсё за дзверцами сядзяць,
Хоць тые дзверцы и адкрыты.

**Т. Гушча.**

## ПАЧТОВАЯ СКРЫНКА.

м. **Лебедзево Вил. павету—Цикаваму:** напишыце якую бумагу падписаў стары кухар. Мы не зразумели. Тагды надрукуем.

**Коуна—Петру Простаму:** фельетон не падходзиць. Пишыце карэспандэнции.

**Радашковичы—Клюшне:** Нехай пабитая панам дзсўка падае ў суд. Раскиданы мост на рэчцы Удранцы, што яго папраўляць адраклись и памешчыца и мужыки, мусе быць будзе стаяць так датуль, пакуль хто ня скруциць на ём галавы. Карэспадандэнцией палей не загониш.



## АД РЭДАКЦИИ.

*Выбары у Трэцюю Гасударственую Думу начынаюцца. Вось Рэдакция просиць сваих корэспондэнтоў и усих, хто хочэ памагчы „Нашай Ниве", каб прысылали ведамосьци аб выбарах и аб тым, гдзе каго выбрали.*






Рэдактор-Выдаўца А. Ўласоў.

Друкарня М. Кухты, Дворцовая, д. № 4.

**Цэна асобнаго нумэру 5 кап.**

Год други — Вильня 28 сенцябра (верэсня) 1907 г. — № 30.

Цэна з перэсылкою и дастаукою да ха.ы: на 1 г. — 3 р., на 6 мес. — 1 р. 50 кап., на 3 м. — 75 к., на 1 мес. — 25 к. Без дастауки и перэсылки: на 1 г. — 2 р. 40 к., на 6 м. — 1 р. 20 к., на 3 мес. — 60 к., на 1 мес. — 20 к. За границаю: на 1 г. — 4 р., на 6 мес. — 2 р., на 3 мес. — 1 р. Перэмена адрэсу — 20 кап.

# Наша Нива

## Першая Беларуская Газэта з Рысунками

**Выходзиць раз у тыдзень рускими и польскими литэрами.**

Падписка принимаецца и прадаюцца атдзельные: нумэры газэты 1) У Кант. „Нашай Нивы“ — Завальная вулица дом № 30, 2) У Книгарни „Знание“ — Георгиески проспэкт дом № 14. 3) У Книгарни Литоуской М. Пясэцкой — Шлапэлис, Доминиканская вулица дом № 13.

Адрэс рэдакции и администрации: **Вильня, Завальная вулица, дом № 30.**

Абъяуления принимаюцца на паследней страницы па 20 кап. за линейку малыми литэрами. Рукаписы и корэспондэнции, прысланные у рэдакцию, мусяць быць чытатэльна написаны з праудзивою фамильею и адрэсом таго, хто яе прысылае. Можна такжэ надписаць прозвищэ разом з фамильею, хто незахочэ, каб была надрукована праудзивая фамилия. Адрэс и фамилия тольки для веда..а рэдакции.

**Ад Рэдакции.** *„Наша Нива“ будзе тым часам выхадзиць не што-тыдзень, але раз у два тыдни. Падписчыком будзе прадоужэны тэрмин падписки так, каб яны дастали усе нумэры, што им выпадаюць, личучы па чатыры на месяц.*



## ПАД ШУМ ВЕТРА.



Праляцела борзда лета,
Наша сьветлая пара.
На дарозе нашай вузкой,
Як раней, стаиць гара....

Скора, скора дуне холад,
Снег пасыпле з сивых хмар;
Зноў мароз надыдзе люты,
И клубком павалиць пар.

Разам з ветрам, с халадами
Думак рой к нам наляциць,
Нудных думак, безпакойных
Сэрцэ беднае сушыць.

Будуць ветры за вуглами
Выць и плакаць и рыдаць,
А у вечэр доўги, цёмны
Песьни ў комине сьпеваць.

Бор стары завые нудна,
Зашумиць вакруг лаза....
Пад их шум не раз на сэрцэ
Капне горкая слеза.

*Якуб Колас.*

## Аб выбарах у Виленскай губ.

### Ад „рускаго“ населення.

Ад вёсковых людзей выбрано 31 чалавек, ў гэтым чысле выборшчыкоў-мужыкоў ўсягo 13 чалавек. Да гэтых 31 ешчэ прылучыцца 7 гарацких выбаршчыкоў. Ўсе гэтые выборшчыки скора зъедуцца у Вильню и павинны выбраць двух дэпутатоў. Каб мужыки разумней рабили выбары, то ўсе 31 были бы мужыцкие выбаршчыки, и яны б

# Братом-згнанником.

Гэй, вы, смутные!
Гэй вы. бедные,
Мае милые
Сябры—згнанники!

Ци вы сираты
У сямьи люцкой,
Што глядзяць на вас
Вокам ворагоў?

Ци разбоем вы
Даставали хлеб,
Што караюць вас
Горш за злодзееў?

Ци у вас нима
Силы, розума.
Што прытулки вам
Ўсе зачынены?

Ци то сэрцэ ў вас
Цьвярдзей каменя,
Што ад вас браты
Адрэкаюцца?

Не! душа у вас,
Сэрцэ — добрые,
Думки чыстые,
Мысьли ясные!

Тольки вам нима
Доли, радасьци;
Сила цёмная
Вас прыциснула...

Гэй, вы, бедные
Сябры—згнанники!
Да канца, браты,
Будзьма цьвёрдыми!

Якуб Колас.

## Аб пераселенню.



Цяпер вельми многа народу з нашай Беларуси и Литвы едзе шукаць працы и хлеба ў далёких чужых краёх.

Што-ж их гониць туды з роднай старонки? Чаму кидаюць яны свой родны кут и выбираюцца за мора?

Кажуць: *„ад добраго жыцця не уцякаюць"*. — И праўды: паглядзим жэ тольки на жыццё нашых вёсковых беларусоў.

Як кинь вокам—ўсюды пануе цемната непрасьветная, вечнае недаеданне, безпраўе...

У нашых мужыкоў зямли найчасьцей нехват, а и тая, што ёсць, саўсим неупарадкована — пабита на шнурочки, параскидана на кольки вярстоў; жывуць на ёй — недаедаючы. Гдзе и мае мужык зямли доси, там праз цемноту сваю ўсё роўна гаспадарыць дрэнна и з працы свaей карысьци бачыць мала. А тым часам з году ў год людзи нарастаюць — робицца ўсё цясьней ды цясьней. Каб пражыць на тых нешчасных шнурочках, трэба было-бы *научыцца гаспадарыць лепей* — так як гаспадараць людзи заграницаю, гдзе на 1¹|₂—2 дзесяцинах умеюць жыць добра. У нас жэ *школ уселяких саусим мала — сьвету навуки не прыбывае, зямли—так сама.*

Пайшоў бы наш беларус куды-небудзь на заработки—дык жэ-ж *нима гдзе*. Фабрык у нас мала; сваих багачоў, каб адкрывали их, ў Расеи так сама ня шмат. А заграничные багачы-капиталисты — напрыклад амэрыканские — пры цяперашних парадках ў Расею ехаць з грашыма ды завадзиць свае фабрыки и заводы — *баяцца*. — „Расея — кажуць амэрыканцы — вельми багаты край. Тутака ў зямли ў розных месцох стольки ляжыць ўселякаго багацтва (золата, серабра, жалеза и иншых металлоў; каменнаго вугля, газы и других рэчэй), што мы ахвотне прыедзем сюды настроиць свае фабрыки, заводы, дабываць з зямли ўсё тое дабро и прыгатаўляць патрэбные людзям рэчы. З гэтаго будзе нам добры даход, а

Цэна асобнага нумэру 5 кап.

Год други. Вильня 26 (8) акцябра 1907 г. № 32.

# Наша Нива

Першая Беларуская Газэта з Рысунками

Выходзиць раз у тыдзень рускими и польскими литэрами.

Цэна з перэсылкою и дастаукою да хаты: на 1 г.— 3 р., на 6 мес.— 1 р. 50 кап., на 3 м.—75 к., на 1 мес.—25 к. Без дастауки и перэсылки: на 1 г.— 2 р. 40 к., на 6 м.— 1 р. 20 к., на 3 мес.—60 к., на 1 мес.—20 к. За границаю: на 1 г.— 4 р., на 6 мес.— 2 р., на 3 мес.— 1 р. Перэмена адрэсу — 20 кап.

Падписка прыймаецца и прадаюцца атдзельные нумэры газэты 1) У Кант. „Нашай Нивы“ — Завальная вулица дом № 30, 2) У Книгарни „Знание“ — Георгиески проспэкт дом № 14. 3) У Книгарни Литоуской М. Пясэцкой — Шлапэлис, Доминиканская вулица дом № 13.

Адрэс рэдакцыи и администрацыи: **Вильня, Завальная вулица, дом № 30.**

Абъяулення прыймаюцца на паследней страницы па 20 кап. за линейку малыми литэрами. Рукаписы и корэспондэнцыи, прысланные у рэдакцию, мусяць быць чытатэльна написаны з праудзивою фамильею и адрэсом таго, хто яе прысылае. Можна такжэ падписаць прозвищэ разом з фамильею, хто незахочэ, каб была надрукована праудзивая фамилия. Адрэс и фамилия тольки для ведама рэдакцыи.

## ПРЭД ДАРОГАЙ.

Эх, як тупну я нагою,
Сьвисну, засьпеваю,
И на ўсё махну рукою —
Гайда с свайго краю!

Годзи пухнуць у балоци,
Вечна ныць ў няволи,
Жыць бяз хлеба, у беднoци,
Трациць силы ў поли!

Апроч силы, мне ничога
Бацька не пакинуў,
Гнуўся, бедны, жаль старога —
Як сабака гинуў!

Я-ж ня буду абдзиралам
Гнуцца за два злоты!
За свой клунак, марш па шпалам —
Пашукаць работы!

Гой, гой, вецер, зашуми ты,
Аж каб лес ламаўся!
К чорту думки разгани ты,
Каб не сумлеваўся....

Якуб Колас.

## Выбары 2 дэпутатоу ад „русскаго населен.“ Вилен. г.

Ў нядзелю, 14 акцябра, адбылися гэтые выбары. Прыехала 39 губэнских выбаршчыкоў, з их 10 папоў, 1 дзяк, 16 чыноўникоў, 2 стараверы и тольки 10 мужыкоў-беларусоў. Што мужыкоў было мала, яны самы ў гэтым винаваты: кали-б выбирали па валасьцёх и вуездах тольки адных мужыкоў, то ў губэрни мели бы сваих выбаршчыкоў 31, дык и выбрали-бы за дэпутатоў, каго хацели-бы.

Апроч мужыкоў, 3 ци 4 папоў и 2—3 чыноўникоў, выбаршчыки ў губэрни належали да „правых“, да „саюза русскаго народа и да „русскаго окраиннаго саюза“. Тут мужыки убачыли, што их справа прапала, и пастанавили злучыцца с папами ды выбраць аднаго папа и аднаго мужыка, а чыноўникоў не пушчаць ў дэпутаты. Два ци тры папы тольки цягнули за мужыкоў и хацели им памагчы ў гэтым, але рэшта па-

## Выбары у Минску.

Выбары дэпутатоў ў Трэцю Думу ад минскай губ. адбылися ў Минску ў нядзелю, 14 акцябра. Стыд и сорам прад цэлым сьветам писаць аб их: чорная сотня патрафила так забраць ў свае руки мужыцких выбаршчыкоў, ды так задурыць им голавы, што яны павыбирали ўсих чорнасоценных кандыдатоў.

Выбрали 9 дэпутатоў: чатырох мужыкоў (Андрэя Наливайко—з Бабруйскаго пав., Ермольчыка—з Рэчыцкаго пав., Кучынскаго—з Барысоўскаго пав. и Юркевича—з Слуцкаго павету); двух папоў (Якубовича и Соловьевича); аднаго памешчыка—атстаўнога жандармскаго генэрала Мезенцова; вучыцеля минскай гимназии — Павловича и Густава Карлова Шмида, каторы ўсей Расеи вядомы з таго, што ў 1891 гаду прадаў немцам за 10 тысяч рублёў пляны русскай крэпасьци, и за гэта, па прыгавору суда, яго саслали на паселенне!...

Ўсе дзевяць—члены чорнасоценнаго „окраиннаго русскаго союза“.

На дзень перад выбарами, польские и жыдоўские выбаршчыки хацели зрабиць з мужыками хаўрус. Па закону меж 9 дэпутатами павинен быць адзин памешчык и адзин гарадзки. Вось паляки и жыды казали, каб мужыцкие выбаршчыки дали свой голас за такога памешчыка и гарадзкога, яких им скажуць; а за тое польские и жыдоўские выбаршчыки будуць даваць свае голасы за сем мужыкоў, яких мужыцкие выбаршчыки самы назначаць с-памеж сябе. Ў саюзи с паляками и жыдами мужыки магли бы непусьциць ниводнаго чорнасоценца и мець сем сваих мужыцких дэпутатоў.

Вось гэтаго баялися чорнасоценцы. Яны ўжо раней пачали сваю работу. У Минск на выбары прывязьли мужыцких выбаршчыкоў их „айцы духоўные“. Тутака их памесьцили ў архирэйским доме и пилнавали, каб нихто, апроч чорнасоценцоў, ня меў да их доступу. И чорная сотня пакиравала сьляпых мужыкоў, куды хацела: им давадзили, бытцам циснуць их жыды и паны-паляки, а руские памешчыки — гэта браты и прыяцели ды праўдзивые апекуны мужыкоў; их слухаць трэба. Гэтакими гутарками ды розными ашуканскими абецанками нацкавали цёмных мужыкоў на палякоў и жыдоў, ды так накруцили их, што ўсе мужыки пайшли саўсим пад каманду чорнай сотни, с паляками и жыдами знацца не захацели.

Чорнасоценцы тольки таго и чакали; карыстаючы з сьлепоты и цемноты нашых беларусоў, пусьцили яны ў Думу ўсяго чатырох мужыкоў заместа семи, а сваих, пры помачы самых жэ мужыкоў, выбрали пяць дэпутатоў, — значыць, захапили тры мужыцкие дэпутацкие меcца.

Яким жэ гэта людзям аддали ў руки долю сваю минские мужыки? Тут ёсць папы, ёсць чыноўник, ёсць жандар,—а ёсць и здрайца и прадацель ўсяе Расеи, Густав Карлов Шмид—быўшы ссыльно-паселенец. Якой жэ свабоды, якога палепшэння жыцця свайго дачакаецеся вы, беларусы, ад гэтаких шчырых „апекуноў“ вашых?

На выбарах паляки, жыды, и некольки справедливейшых руских выбаршчыкоў, убачыўшы, што Шмида выбрали за дэпута,—прачытали заяўленне, што выбар Шмида — гэта ганьба для ўсих, бо яго судзили за ганебную здраду гасударства. Прачытаўшы, ўсе кинули выбары и выйшли.

**Витэбск.** Перад выбарами к мужыком не дапускали прагрэсистоў. Кармили мужыкоў абедами и мовами „правые“ у клубе и падгарнули мужыкоў пад сябе.

32 прагрэсисты (руские, паляки, жыды) кинули выбары, падаўшы заяўленне, што им не дали пагаварыць з мужыками. Выбрали 2 мужыкоў, членоў „саюза рускаго народу“, 3 чыноўникоў и 1 папа.

**Коўна.** Литоўские мужыки цьвёрда и дружна трымалися на выбарах, злучыўшыся з гарацкими,— и яны дабилися свайго. Выбраны ў дэпутаты мужыки: 1) Франц Антоноў Кузьмо, скончыў гарацкое вучылишчэ, социал-дэмакрат, 2) Игнацы Осипоў Пожэлло, соц.-дэм. 3) Франц Осипоў Кэнис, соц.-дэм. и ад мешчан адвакат з Поневежа Нафтал Фрыдман, скончыў унивэрситэт. Ад памешчыкоў К. Завиша, сярэдни прагрэсист.

**Магилеў.** У Могилеве мужыки былипад моцнай апекай правых. Выбраны усе правые, у тым счоце архирэй.

---

**Пецербург.** Па усей Расеи выбрана у Думу: 168 правых и 105 акцябрыстоў, а з левых выбрана 92 партии народнай свабоды и 30 сациалистоў.

## Андрэй-выбаршчык.

I.

— Ну, Андрэй! глядзи-ж трымайся, — ведай, за каго падаць голас!

Так гаварыли мужыки свайму ўпоўнамочэнаму, выпраўляючы яго ў горад на выбары дэпутатоў.

— Не ганися за панскаю гарбатаю, бо пан часами и лисицаю можэ прыкинуцца— и руку табе падасць, и нават пацалуецца с табою.

— А што мне их гарбата! Я и сваю скарынку хлеба зъем, — гаварыў Андрэй: — не таки я дурэнь, каб прадацца за гарбату,

— Праўда, праўда, Андрэй! табе и дэпутатам ня брыдка быць за такие словы.

— Так, брат; у их на языку мядок, а на сэрцы лядок.

— Эх, дзеци вы, дзеци!—махнуў рукою стары Хлёрка:—ничого, як я бачу, ня будзе з гэтых выбароў.

— Як то ня будзе? Каб ўсе махали так руками, то и ниякой не было б Думы.

— Ты хочэш, каб к табе сама зямля с печы ў руки прышла?

— Свабоды Бог з неба ня скине!

— Вядома!

Стары Хлёрка засаромяўся и хутчэй схаваўся за мужыцкие сьпины.

— Сь..ела, Андрэй, рэж там ў горадзе праўду!

Андрэй хацеў сказаць мужыком цэлую прамову, але ўсяких думак так многа наплыло ў яго, што ён ня ведаў, с чаго пачаць, и тольки сказаў:

— Ну, братый, бывайце здаровы.

— З Богам, з Богам, Андрэй!

И Андрэй закинуў на плечы палку, на каторай была торба с хлебам и салам, и пехатой пашоў на вакзал.

II.

Мужыки нецярплива чакали Андрэя з выбароў. На трэйци дзень, ў каторы Андрэй павинен быў прыехаць да дому, цэлая грамада мужыкоў ў доўгих кажухох з люльками высыпала на вулицу кале манапольки и шумела, як лес у вецер.

А як рабиць тут не было чаго, то сягды - тагды можна было чуць, як стукала саракоўка аб тоўстую мазолистую руку и як галгатала гарэлка, пераливаючыся проста з бутэльки ў мужыцкае горла.

Тут были и такие, каторые ўжо усьпели нализацца, и сьпевали песьни. А Антось Байбак нават пашоў ў скоки и баранаваў пясок на вулицы старыми ботами, на каторых не хватала аднаго апцаса.

— Андрэй идзе! Идзе Андрэй!

Гоман як бачыш сцих, и ўся грамада заварушылася, як адзин чалавек.

Тольки адзин Антось Байбак не хацеў злучацца з грамадаю и не пераставаў араць пясок, крычучы, каб на яго пазирали, бо ён паказваў, як даўней скакали Лявониху.

Але на яго нихто не пазираў.

Андрэй шоў, апусьциўшы галаву. З адной кишэни доўгаго сиваго халата тырчала турэцкая булка, як раменны мужыцки чук.

Мужыки цесна абступили Андрэя.

— Ну, чым жэ ты пацешыш нас, Андрэй?

Андрэй махнуў рукою, и першае яго слова насила имя той рэчы, каторую мужыки на поле вывозяць.

— Каго ж выбрали?

— Папоў ды чыноўникоў.

— А ты гдзе быў, карова ты? Чаго глядзеў?—накинуўся на Андрэя пьяны Антось:—да я б им нюхаўки параспорваў бы!

— От ты идзи лепш скачы Лявониху,— парадзили яму мужыки.

— Няхай вы па жары скачэце, агрызнуўся Антось и плюнуў.

— А яны стаяць за мужыкоў?—Пытали изноў мужыки.

— Гдзе бачыли! Ўсе чорнасоценцы. И приступу да их нима.

— А гарбатаю вас не частавали?

— Чаму не? Але чорт яе пиў. Гатовы сказаць ешчэ, што мужыки жывуць па-панску. Гаварыў жэ адзин стрынгаль, што сорок гадоў таму мужыки ели мякину.

— Трэба было сказаць, што цяпер и гэтаго нима,—загаманили мужыки.

— Дык мы и зрэзали гэтаго пана, аж брыдка яму стала... А якие яны были добрые! Проста хоць да раны прылажы. — А як прывязаўся быў да нас адзин саюзник —проста хоць ты махалам махай—злаваўся не адчапицца ад яго. Адзин з наших раз и сказаў: „хоць и пойдзем, але вушы заткнём, каб ня чуць вашай гутарки“.

— Гэта ўсё роўна як той паляшук, катораго силаю валакли да цэрквы. Бачыць, што ничога ня будзе,—„хоць, кажэ и пайду, але и губою и рукою не мяпну!“ — сказаў адзин мужык.

— А раз, братки, такая вышла штука. Зашли да аднаго выбаршчыка. Нихто ня ведаў, што ён—прадседацель „саюза рускаго народа“, и аблаяли мы гэты саюз з астатних слоў. Выбаршчык ўсё слухаў ды вачами моргаў, а потым як усхоцицца, ўсё роўна як на шыла сеў, ды як крыкне: „Гарадавых пазаву!“ Дык мы, брат, ходу. Грыгор з N павету, бегучы з другога пёнтра, зачапиўся ботам, паслизнуўся и пераличыў задам ўсе ўсходы. Дык мы гэтаму выбаршчыку кинули ўсе чорные галки, але ўсё роўна яго выбрали—што мы значым? Кольки нас? Як выбрали дэпутатоў, дык ўсе чорнасоценцы давай биць ў далони, сьпеваць, я думаў, што Лявониху скакаць ешчэ пусьцяца... Стаяли, мы, братки, моцна.

Ў канцы адзин з мужыкоў сказаў рэч надта жалосную. „Скрыўдзили, кажэ, мужыкоў, ня выбрали их дэпутата. Хто будзе гаварыць ў Думе аб цяжкай доли нашай...“

Мужыки ўсе плакали.

Стары Хлёрка выциснуўся на першае месца, абвёў ўсих мужыкоў вачами и сказаў:

— Ну, што, чыя праўда?...

**Агарак.**

---

# З Беларуси и Литвы.

(ад наших карэспондэнтаў).

**Вильня.** 10-го наябра будзе год, як пачала выхадзиць беларуская газэта „Наша Нива“.

*Родичэў* вельми остра разбираў дэкларацню правицельства. „Тольки справедливые, ясные законы, каторых нарушаць никому ня будзе дазволена“,—гаварыў Родичэў, — „тольки закон, роўны для ўсих, нават для самаго малаго грамадзянина Расейскаго гасударства, — дадуць спакой и шчасьце народу“, Сила и безпраўе да ничога добраго не давядуць. Трэба даць народу больш свабоды и правоў, и усе успакояцца. Ўсим нациям трэба даць роўные правы, тады яны будуць любиць Расею и з гордасцью будуць гаварыць: „я русски грамадзянин“... Тые спосабы, каторых правицельства цяпер ужывае для заспакаення краю,—страшные спосабы: на их апираць уласць ня можна.

Тут Родичэў ўспамянуў пра „муравьёўски каўнер“ н „столыпински галстух“... Тады правые кинулись к Родичэву с кулаками и пачали лаяць яго самыми найгоршыми словами. Министэр Столыпин зьбялеў и выйшоў з Думы. Падняўся гвалт, гоман. Заседанне закрылось. Як яно аткрылось изноў, прадседацель абъявиў, што Родичэва за яго словы трэба выдалиць з Думы на 15 заседаннёў. Дума на гэта прыстала, агроч 96 дэпутатоў левых.

Родичэў сказаў, што ён абидзиць Столыпина нё хацей, а гаварыў аб усей палитыцэ правицельства. Пасьля таго, як ён ўзяў свае словы назад, многа дэпутатоў думае, што Родичэва не было за што так цяжка караць.



# КИРМАШ.



I.

— Адно-ж ты, Пятруська, ня баўся на кирмашы. Сюды-туды, ды її дадому. Прыедзь хоць раз, як чалавек.

Кожную нядзельку дзеўбла Кася Пятрусю адно и тое, и Пятрусь иншы раз и засердые. Яму не падабалася такая апека жонки.

— Ото як ты баисься!

— Пятрусь сеў на воз, сарваў сваю злосць на кани, катораго сьцебануў пугаю разоў тры, каб за одно нечага и жонцы задаць страху.

Палавину дароги—а гэта будзе вёрст пяць—Пятрусь быў сярдзиты. Падумаць, дык выходзиць, што жонка кажэ праўду: ци-ж добра, каб хто спытаўся прапиваць грошы? И Пятрусь стаў думаць аб тым, як ён ўжо разоў двадцаць дакляраваў жонцы ня пиць гарэлки, и заўсягды прыежджаў да дому пьяны; як ён ашукваў яе, прыкидваючыся цвярозым, для гэтага ён стараўся хадзиць роўна. Часам яму и ўдаецца зрабиць кольки роўных крокаў, а потым, пазираеш, гарэлка павядзе ў бок. Тагды ён кидаўся на другую хитрасць.

— Ое-ёй! стагнаў тагды Пятрусь:-от же кальнула! Бадай ты згарэла!

Пятрусю рабилася брыдка прэд самым сабою ад адных гэтых думак.

— Не, трэба таки кинуць пиць,-гаварыў сам сабе Пятрусь и развясельваўся.

Прыехаўшы да места, Пятрусь выпраг каня, павесиў яму на галаву торбу з сечкаю и аглядзеўся. Ўсё места было застаўлена вазами. Мўжыки хадзили ў лапцях и мясили балота. Кале вазоў снавали жыды и жыдоўки. Хто прадаваў масла, хто сала. Тут жэ стаяли цэбры, рашки, вёдра. Ўсякаго было народу. Были и такие, каторые ничога не куплялп и не прадавали, а прышли так сабе „на раздабытки“. Прыдзе сабе ў краму, патупае, патупае, а як гдзе што кепска ляжыць, то и запусьциць лешча. А кали яго лавили, то ён спакойна гаварыў:

— Кольки гэта каштуе, Малка?

Аглядзеўшыся вакруг, Пятрусь пашоў рабиць свой абход з мяшочкам и с торбачками пад пахаю. Трэба ўзяць соли, муки, атрубёў.

Куча народу. Ў сярэдзине важна сядзиць руски, разлажыўшы сваих багоў. Ў другой грамадзе народ акружыў жыда с круцёлкаю и пазираў, як пробаваў хто шчасця, клаў дзесятки и грывни и круциў. Каму пападаўся кубак, каму мыла, каму пишая рэч, а каму, як кажуць добрые людзи, гула асмаленая.

Трейця, ешчэ большая чарада народу, стаяла кале дома з вывескаю: „Казённая винная лаўка № 67“. Тут были бабы и мужчыны. Хто выбиваў корак с кварты, с поўкварты, а хто, адвернуўшыся ад людзей, каб не саромиць их, з маленькаго кручка. З двацаць мужыцких галоў было задрана ў гару так, што нос прыходзиўся як раз проци самой сярэдзины неба. Хто пиў з вяликой бутэльки, той трымаўся сьмела: станаўвўся на самае виднае мейсца, падпираў адною рукою бок и важна цягнуў гарэлку. А кали хто йшоў з „буслам“, прад тым мужыки разступалися и давали дарогу, як якому спраўнику.

II.

За гоманом трудна разабраць, хто што гаварыць. Вот дьве бабы. Адна аперлася на

воз з аднаго боку, другая з другога. Абедзьве выпиўшы. Адна гаворыць груба, другая тонка. Мова першай бабы падобна да каротких слоў:

— Ды-ды-ды-ды!

Другая сыпала танчэй и ешче скарэй:

— Дэ-дэ-дэ-дэ!

На другим возе сядзяць тры мужыки. Два з их абнимаюцца и цалуюцца.

— Братка ты мой!—Гаварыць адзин:—твой Алесь—золата, а не чалавек.

— Галубок ты мой!—кажэ други:—дальбог я цябе люблю. Каб я жонки не ўбачыў, кали не люблю. Дай сюды сваю морду... во так!

— Хадзем ешчэ выпьем паўкварты.

Два шчырые сябры злазяць з воза, абнимаюцца цалуюцца, адзин другога падтрымоўваюць и идуць да манапольки.

— Га, Патрусь, и ты тут?—сустрэў Пятруся Карусь Акалот, у катораго вочы были ўжо як у салавейчыка, а з рота нясло, як з бочки.

— А вот як бачыш,—сказаў Пятрусь.

— Идзи, брат, паглядзи, якога я купиў падсвинаку.

— Карусь схапиў Пятруся за рукаў и павалок яго глядзець падсвинаку.

Пятрусь пахвалиў гэту маладую асобу и сказаў Карусю, што добра купиў.

— Добра кажэш?

— Вядома, што добра.

— Кали так, то хадзем у „Порт-Артур“.

„Порт - Артурам“ мужыки назвали хатку, што стаяла разам с крамкаю. Гэта хатка заўсягды была паўнютка людзi. Там стаяў таки шум, крык и гоман, што аж глушыла. А раз зайшоў у „Порт-Артур“, то выйсци адтуль не так-то лёгка: ци мала там сустрэнеш добрых людзей?

— Не, не пайду!—сказаў Пятрусь.

— Чалавек! па чарцы! — угаворваў Карусь.

— Нима, брат, часу,—стаяў Пятрусь на сваём.

— Кольки там таго часу? Поўгадзины, ня больш. Хадзем!

Пятрусь трохи упираўся але таки пашоў. „Чарку, дзьве, ня болей“, думаў идучы Пятрусь.

С „Порт-Артура“ ён шоў надта вясёлы и сьпеваў:

„Наплеваць мне на падатак,
Што мне писар, старшына?
Лейба! торбу на ў задатак,
Дай жэ крэпкаго вина!“

III.

Вечер быў хмурны. Ни зор, ни месяца.

Ўскациўшыся на воз, Пятрусь завязаў лейцы за аглабицу и лёг.

Ўвесь сьвет, здавалася яму, скакаў Лявониху. Кали-не-кали Пятрусь падымаў галаву, крычаў: „Но, малы!“, цмокаў губами и свистаў.

„Добра мера, хоць без грошай,
Абы празничак харошай!“... цягнуў часами Пятрусь песьню, лежачы на возе, вугнивым, хрыпатым голасам. Глуха и нудна замираў яго гнусавы голас ў цишы асенней ночы.

Конь ишоў памалу, як хацеў и кудою хацеў. Разоў некольки зачапиў ён восьлю у хвою и скинуў атосу. Цялежка стукалася аб карэння, плюхала па грази и кацилася бокам. Таким парадкам пракацилася яна вёрст тры. Ў адным мейсцу, каб абысьци гразь, конь зьвярнуў з дароги, усьцягнуў драбины на пень, сарваў са шворна цялежки и аставиў драбины с Пятрусем сярод леса, а сам паклыгаўся с цялежками далей.

Палежаўшы с поўгадзины, Пятрусь падняў галаву, цемокнуў и крыкнуў:

— Но-о-о, малы, варушыся!

Было ўжо сусим видно, як Пятрусь прачухаўся трохи и падняў галаву. Што за лиха?

— Што гэта? Гдзе ж гэта я? Тфу! тфу! тфу!, Згинь, прападзи! Васхрыстус! васхрыстус!

И Пятрусю ўспомнилася ўсё.

Божэ-ж мой, Божэ! Што я зрабиў?! Загаласиў Пятрусь, заламаўшы на галаве руки.

Стыд перэд жонкаю, перэд людзьми, злосць на самога сябе, на тых, хто выдумаў гарэлку, прапажа каня,—ўсё гэта зьвязалася ў адзин клубок гора и пакуты.

— Ну, не сабака-ж я, не гад, не лайдак? Што я раблю найлепшае? Чаму ты, Божачка, не напусьциш агню на гэту атруту люцкую?!

Зьняў Пятрусь драбины, сеў на пень, закрыў твар и стаў плакаць.

— Што рабиць, што чыниць?

Папробаваў быў Пятрусь цягнуць да дому адны драбины и нават падцягнуў их с паўверстня.

— Не! Як я пакажуся людзям ў вочы? Прапиць каня и самому цягаць драбины?

Ен звалок драбины з дароги и, апусьциўшы галаву, пашоў да дому. Падышоў ён з вярсту, бачыць—стаиць яго конь с цялежками, зачапиўшыся лейцами за корэнь.

Коник ты мой залаценьки!—закрычаў з радасьци Пятрусь и пацалаваў ў самую мызу свайго худога мышака.

А потым пацалаваў Пятрусь землю и пакляўся прад небам, што николи ня будзе пиць гарэлки.

**Дзядзька Карусь.**



# Кольки слоў аб сельскай гаспадарцы у Беларуси.

—о—

Што мужык наш цёмны, аб гэтым шмат гаварыць ня трэба: кожнаму гэта добра ведама. Дый у апошние годы самы мужыки ясна паказали ўсяму сьвету цемнату сваю: досп глянуць хаця бы на тое, як выбирали и каго паслали яны ў Думу бараниць свае справы, ды як трымаюцца тые дэпутаты ў Думе...

Дык ня дзива, што и гаспадарыць цёмны беларуски мужык сусим дрэнна. Прывык ён гаспадарыць так, як гаспадарыли яго бацьки и дзяды,—трымаецца сваих шнуроў ды трохполёўки, а ня можэ зразумець. што такую гаспадарку завяли тады, як зямли было многа куды больш як цяпер. Ды праз цемнату сваю ня можэ пазнаць новых способоў вырабляць зямлю, яких ужываюць у других краёх, гдзе народ мае доступ да сьвету навуки.

Але ў нашым краю рэдка гдзе знойдзеш и маёнтак, што ў им гаспадарка добра вядзецца. Меж памешчыками не залишне многа таких, каторые, маючы навуку, сядзели бы на земли ды самы гаспадарыли. А яшчэ цяпер, каб гаспадарыць так, як гаспадараць заграницаю, каб дабыць з зямли ўсё, што можна,—трэба ў гаспадарку влажыць шмат грошэй, каторые вернуцца не адразу, а праз некольки гадоў. Дык жэ грошэй гатовых памешчыком нехват: и так ня многа асталося маёнткоў, гдзе яшчэ астаўся цэлы лес—не пайшоў на продажэ.

Праз усё гэта беднасць пануе ва ўсей Белай Руси: людзи не дабываюць з зямли ўсих багацтв, што ў ёй знаходзяцца для карыстання народа. Да таго прылучаецца яшчэ адна прычына, аб каторай п. Крэсало пишэ ў газ. „Виленск. Вѣсти," вось што.

„Яшчэ ня так даўно, гадоў 5—6 таму назад, банк вельми ахвотне памагаў ўсим, хто хацеў купиць зямлю и меў п р а в о купиць яе ў нашым краю.

„Гэтакими шчасьливыми людзьми были найбольш русские чыноўники, быўшые члены валасных праўлений, або проста „гандляры-драпежцы": па их аставалася голая земля, зрубленые пни ды пясок...

„Часта нават пясок им удавалася прадаць казьне, бытцам неякае багацтва „минэральнае".

„Гэтые прасторы—„неба, хвойник ды пясок" даюць смутны образ чыноўницкай зямельнай культуры ў нашым краю...

„За адзин тольки лес брали пры прадажы ў тры разы больш таго, што плацили за ўвесь маёнтак.

„Таким парадкам самая земля и часць лесу (кали яе астаўляли на гаспадарские патрэбы) даставалися гэтым шчасьливым людзям саўсим дарма.

„Быў час—ў 1891, 1895 и 1900 гадах—кали гэтак рабилися надта вяликие гешэфты. Вось тады прадавалися маёнтки кн. Гогенлогэ (Витгэнштэйна).

„З зямлёю, лёсам, вадою, полем рабили так, як кали граюць ў карты.

„Ў канцы прышлося дрэнна и Банку, бо яму астелися расхапаные („расхищенные") маёнтки з высмоктанай зямлёю".



# Суды для мужыкоў.

Министерства „юстиции" (судоў) и „ўнутренных дзел" займаюцца цяпер, як пишэ „Товар.", справаю аб *рэформе* (перамене) Судоў для мужыкоў.

Спачатку быў праект устанавиць для валасных судоў „угалоўны устав", на каторому за праступки, што судзяцца ў гэтых судох, павинны назначацца для мужыкоў такие самые кары, як для ўсих людзей назначаюць другие суды. Гэтаким парадкам думали и пры цяперашних валасных судох завесьци роўные для ўсих судзебные кары.

Але-ж скора министерства прызнали, што з гэтаго ничога ня выйдзе. Перш-наперш, новые угалоўные законы вельми павеличыли ўсе кары: нават за малые праступки караюць цяжэй, як раней карали. Кали-б и ў валасных судох завяли тые законы, дык прышлося бы за глупства назначаць залишне вяликие штрафы, што мужыкам нельга выплациць. Дый „халодных", па валасьцёх было-бы нехват. А найгоршая рэч—тое, што цяперашнему валасному суду ня можна даваць многа власьци и даверыць судзиць важнейшые справы ды назначаць вяликие кары: якие ў им людзи судзяць, кожны мужык сам добра ведае.

З усяго гэтаго ясна, што пры цяперашних судох для мужыкоў аниям ня можна завесьци роўные для ўсих законы и кары судзебные. Да новых законоў трэба-бы адмяниць и валасны суд, и земских началь-

сваих наций, правые дэпутаты спатыкали крыкам, шумам, сьмехам. Дарма инородцы прызывали пачуцце справедливасьци, катораe мае русски народ...

Министэр Столыпин казаў ў Думе, каб инородцы перш палюбили Расею, прызнали яе сваей айчызнай, а тады им будуць дадзены правы, роўные з русскими.—Тым часам палажэнне инородцоў ня толькі не палепшаецца, а робицца ешчэ горшым.

Два годы таму назад министэр юстиции (справедливасьци) Манухин прасиў сэнат, каб затрымаць спаўненне сэнацких пастанаўленний, аграничываючых правы жыдоў, да таго часу, покуль справа аб жыдох ня будзе закончэна. Гэтаких пастанаўлений было 600 з лишкам. Сэнат прыстаў на гэта. Цяпер, як пишэ „Русь", министэр Шчэгловитоў пастанавиў ўвадзиць ў жыцце ўсе тые пастанаўлення сэната.

Так сама прыциснуты паляки. Ў часи „свабоды" правительства дазволила палякам аткрываць ў Польшчы школы, гдзе можна было вучыць ў роднай мови. Вось паляки устроили товарыство „*Pol. Macierz Szkolna*", каторае и пачало завадзиць ў сваим краю польские школы ды гэтак шмат сьвету закинуло ў цёмны люд. — Цяпер вельми карыстная праца товарыства скончылась: ў гэтых днях товарыство забаронено и закрыто.

А Дума проци ўсяго гэтаго, здаецца, ничога ня зробиць...

**Г.**

# ПЫТАННЕ.

Гдзе ты, мая доля?
Гдзе ты? я пытаю.
Ци то Бог назначыў
Стаць мне ў жыццю с краю?

Ци то людзи злые
Шчасьце адабрали,
На маёй дарозе
Ямы пакапали?

Ци за грэх чужы я
Вышаў ў сьвет бяз доли,
Як забыты колас
На мужычым поли?

Ци за то страдаю,
Што шукаў я сьвету,
Што любиў я сонцэ
И ўздыхаў па лету?

Горкие мне песьни
Тольки дасталися,
Многа думак нудных,
Слёзы каб лилися,

Каб чужые слёзы
Памешаць з сваими...
Сэрцэ дзервяное
Ци ж зацэпиш ими?

Будуць плакаць вочы,
Будуць рвацца грудзи,
Будуць чалавека
Цiснуць доўга людзи!

**Якуб Колас.**

# Василь Чурыла.

(Апаведанне з жыцця лясьникоў).

I.

Лес шумеў неяк вельми нудна.

Лес рэдка кали маўчыць. Прывычнае вуха лавила ў им голасы, але нихто ешчэ не ўникнуў ў тайну яго мовы; тольки сэрцэ смутна адгадывае у им нуду, ци трэвогу. Касматые яловые вяршыны траслися, як у шалёным танцу. Лапы то падымалися, то апускалися, як бы лавили невидзимаго ворага, каторы не даваў спакою и запраўляў трасьцися лес...

Лес шумеў. Нудна шумеў стары лес.

С краю леса стаяла хатка лясьника, Василя Чурылы. Маленькае ваконцэ хатки смутным значком пазирала ў ноч, ў поле. Здалёк яно здавалася воўчым вокам. Над самым ваконцэм звисла голая вярбина и глуха шумела, ўсё роўна як стагнала.

Маленькая лямпачка смутна сьвяцила ў хатцы. Агонь баязлива дрыжаў, и чуць заметна скакаў и пераливаўся змрок па сьцене. Кале стала сядзела жонка Василя, Алеся. Ей ничога не хацелася рабиць, ды й работа падала з яе рук.

Дзеци даўно ўжо спали.

— Божэ ж мой! Гдзеж гэта Василь?— з уздохам пытала Алеся.

Василь ня першы раз прыходзиў да дому ў таки позны час. Знала Алеся сабачую лясьникову службу, знала пана лясьничаго, што то быў за чалавек. Але чаму ж так нудна и страшна за Василя сягоння? Алеся и сама гэтаго ня знала, тольки некая глухая трэвога залезла ў душу и, як чэрвяк, грызла сэрцэ.

Доўга чэкала Алеся Василя.

Перадумала ўсе нешчасьця и здарэння, якие магли прылучыцца з Василём ў гэту неспакойную ноч.

А лес ўсё шумеў. Нудна шумеў стары лес....

II.

Гдзе-ж дзеўся Василь?

Ўжо пачынала змеркацца, як паслаў яго лясьничы з письмом да суседняго двара.

Была ўжо глыбокая ноч, поки зайшоў Василь у двор да пана. Пан затрымаў Василя на некольки часу, поки писаў атказ лясьничаму. Нихто не спытаў Василя, ци ён еў; нихто не накармиў галоднаго. И вышоў Василь ад пана з горкай крыўдай ў сэрцы...

Беднасць заправила Василя кинуць бацькову хату и исьци ў лясьники. Немала прышлося яму паабиваць панские пароги, ня раз мусиў ён стаяць без шапки прад панам лясьничым, цалаваць яму руки, гнуцца. А ўсё гэта любиць пан. Тае лясьництва —глухи вугалок Беларуси,—ў каторым служыў Василь, захавала ў сабе ешчэ старые парадки таго цёмнаго часу, кали-то права паменяць чалавека на сабаку, таго часу, каторы зваўся „паншчызнай". Жыцце шло далей сваею дарогаю, шло, шырылося, а гэты кут аставаўся глухим, акамянелым, и сьвет жыцця новаго адскакиваў ад яго, як адскакивае луч зимняго сонца ад ледзяной гладзи.

Шоў Василь адзиноки, нудны.

Сьнег хутка заметаў дарогу, вецер зьбиваў Василя з ног, а горкие думки, як пчолы, кружылися над яго галавою. Ўсё яго жыцце, ўсе думки были ў тым, каб скарэй збавицца ад сваей сабачэй службы. Дастацьбы кусок зямли, пастроиць сваю хату и жыць, як Бог паложыць на душу, никога не баяцца, никому ня гнуцца.

А тут што?

И усё лясьникова жыцце яго ўстала прад им, як жывое, ўсё роўна, як пазираў ён на яго, як на адзин цэлы, закончэны образ унижэння и крыўды.

III.

А вецер ўсё крэпчау. Василь адвярнуў каўнер кажушка, глыбей насунуў на вушы круглую шапку, апусьциў стрэльбу рулею ўниз, каб не надзьмула сьнегу. Лес скончыўся. Василь вышаў на аткрытае мейсца. Ён ўсё думаў а сваим жыццю, аб лясьниковай службе.

Ешчэ-б, сказаць, можна было-б служыць, каб трымаўся тольки службы. Але ўся бяда ў тым, што лясьничы папихаў лясьника да ўсяго, як дарэмнаго каня. Пры адной тольки мысьли бачыцца з лясьничым мароз црабегаў па шкуры Василя. Василь не раз гаварыў, што лепей хацеў бы ён сустрэцца з гадам, або воўкам, як папасьцися на вочы лясьничаму. Не раз стаяў Василь, як палатно белы ад крыўды и несправедливасьци, выслухваючы спаведанне пана лясьничаго. Руки самы згортвалися ў кулаки, и не раз някая сила падбивала Василя кинуцца на лясьничаго, разбиць бы яму твар, кинуць аб землю, таптаць нагами, биць, биць без жалю, без миласэрдзя. Тагды-б, здаецца, спагнаў сваю злосць, адамсьциў бы за ўсе здзеки и унижэння. Але ўспаминаў Василь, што у яго ёсць жонка, ёсць маленькие дзеци, и руки самы апускалися, и стаяў ён, як акамянелы, маўчаў—ни слова. Што-ж, кинуцца на пана? а што далей? Далей турма, жабрацкая торба. Далей гэтых границ ня ходзиць забитая, прынижэная душа простаго чалавека.

Лаяўся пан лясьничы, як праўдзивы майстар свайго дзела. Лаянка яго лилася доўга, плаўна, без запирки Кожнае слова было ўзвешана и била па сэрцы цяжким абухам. Адным словам, думаў Василь, абмылкаю некаю прышоў на сьвет гэты чалавек и замеж астрога або варьяцкаго дома папаў ў лясьничые. А, ў рэсьци, чорт яго разбярэ, хто жыве тут не па абмылцы! На гэтым пункце патыкалися мысьли Василя и не магли здалець яго, бо далей прад вачыма яго аткрывалася многа непанятных парадкоў, за каторые можна папасьци ў турму, або чорту на скавараду.

IV.

Ў тахт думкам и мысьлям Василя сьпеваў вецер ў поли никому непатрэбные песьни. Василь так углыбиўся ў свае мысьли, што забыў, гдзе ён, куды идзе.

Василь стаў, каб разглядзець, гдзе ён. Ноги яго па калени ўлазили ў сьнег. Але што разгледзиш у такую ноч? Неба змешалася з зямлёю... Шыроки прастор поля звузиўся ў чорную бочку, и ничога не магло разглядзець вока адзинокаго Василя. Ўсё роўна, як нехта выкинуў яго, непатрэбнаго, беднаго ў гэту зяўру страшнай ночы, прынёсшы ў афяру сярдзитай буры, каб яго жыццем купиць сабе пакой.

— Гдзе ж я? — трывожна спытаў сябе Василь.

И адразу ахвациў яго страх, самы большы страх чалавечы—страх за сваё жыцце. Руки яго апусьцилися, яму захацелася прысесьци. Але ня сеў Василь и стаў перабираць нагами па глыбокаму сьнегу, як спутаны.

А мысьли, безталковые, дзикие мысьли заварушылися ў им скора-скора, як той сьнег, каторы з усих старон так безжаласна сыпаўся на Василя. То думалася Василю, што ён сам шукае сваей магилы, то здавалися прад им сьцены, камення, гатовые кожны момэнт навалицца на яго ўсим цежарам. Яму здалося, што ён адышоўся далёка-далёка... Ўжо раз спатыкнуўся Василь, вецер зьбиў яго з ног. Йон выбиўся на луг, як яму паказалася. Ў яго думках праняслися азярыны ў высоких берагох, замеценые сьнегам, але николи незамерзаючые. Сьнег ўсё глыбшы и глыбшы, а силы ўсё растаюць и растаюць. От ён сусим выбиўся з сил, залез ў сьнег па пояс и ня можэ ўжо мясиць яго адзервянелыми нагами.

V.

— А-а-а—у!

Василь и ня думаў крычаць, як ня думаў ён и плакаць. Дзики крык вырваўся сам проци воли Василя, и самы пацякли слёзы.

Вецер падхапиў яго немы крык, рвануўся з им и тут жэ загубиў яго, разцёр, як мыльную булбатку.

— Хто я? Василь?

— Василь, хто ж я?

— Што ж ты тут робиш?

— Сяджу ў сьнегу.

— Ну, Василь, гайда да дому!

Ўсё у им мяшалася, и сама сабою навязалася яму гэтая безталковая гутарка...

Вот у вачах яго як бы прасьвятлела. Ўсюды, куды ён ни гляне, виднелися морды лясьничаго, яго вышчэрэные зубы. Гэтых мордаў набралося многа-многа; яны абнималися, скакали, варушылися, як па камандзе, дрыжали, як лисьця асины прад навальницаю.

А вунь, там, видаць худое, змучэнае, заплаканае лицо Алеси... Вунь яго дзеци...

А лясьничые скачуць, насьмехаюцца з Василя, падаюць яму руки и борздзенька прымаюць, як тольки Василь памыкнуўся ўзяцца за их.

Рвануўся Василь са злосьци на лясьничых!

И пачуў Василь лёгкасць, як бы ён павис над зямлёю. Йон циха апусьциўся, стаў лёгка, свабодна ўлазиць ў нешта мягкае и халоднае. От як бы затрымаўся... Чуў ён ешчэ, як лопнуў рэмень на яго стрэльби, як улазиў ўниз и... болей ничого ня чуў Василь.

Вецер сьпеваў цяпер „вечны пакой“ слузе Божаму и чалавечаму....

**Лесавик.**

# Суд над дэпут. соц.-дэм. фракции II Гасуд. Думы.

22 листапада ў Пецербургу было вяликае ажыўленне. Ў гэты дзень пачаўся суд над дэпутатами II Гасуд. Думы, каторые належали да социал-дэмократычнай партии и ў самой Думе зрабили сваю *фракцию* (хэўру). Дзеля таго ва многих высшых школах были сходки, ў некаторых баставали. Шмат фабрык так сама баставала.

На першым заседанни суда падсудзимые-дэпутаты, даведаўшысь, што дзела будзе разбирацца пры закрытых дзьверах, пачали дамагацца, каб их судзили аткрыта. Суд их жадання не уважыў. Тады 30 чалавек с-памеж их адмовилися быць на судзе и прасили сваих адвакатоў так сама кинуць суд. Пасьля перарыва кинули заседанне суда и астаўшыеся дэпутаты.

На другое заседанне суда зьявилось ўсяго тольки шэсць падсудзимых, каторые пастанавили быць на ўсей справе.

Суд цягнуўся больш тыдня. Тольки 1 грудня а 6 гадзини вечара *„асобае прысутствие угалоунаго касационнаго дэпартамэнта сэната“*, што разбирало дзела быўшых дэпутатоў, пастанавило прыгавор.

Падсудзимых падзелили на тры часьци.

Членоў думскай фракции абвиняли ў тым што яны,

быўшы дэпутатами II Гасуд. Думы, зрабили праступны саюз, каторы ў сваей рабоци кираваўся пастанаўленнями другога тайнаго праступнаго саюза, называючагося „цэнтральным камитэтам расейскай социал-дэмократычнай рабочэй партии“; што саюз дэпутатоў меў цэль зрабиць рэволюцию и бунт и силай раскинуць устаноўлены аснаўными законами парадак упраўлення Расеей, а на месца яго устанавиць дэмократычную рэспублику што, каб споўниць гэтае заданне, тые дэпутаты ўсе разам и па асобку згаварывались з тайными организациями, писали цыркуляры и листы, падымали народ проци багачоў; што рабили саюзы и злучали ў адно людзей беднейшых, дый хацели устроиць бунт войск, мужыкоў и рабочых; падгатаўляли их да вайны и забрання гасударственай власьци, каб аддаць тую власць ў руки „ўсенароднаго учрэдзицельнаго сабрання“, выбранаго простым, агульным, роўным и тайным падаваннем галасоў; ешчэ абвиняли дэпутатоў, што яны киравали устройствам рэволюционных организаций и заяўленнями рэволюцыйных трэбаваннеў, дый што были цэтрам, куды йшли трэбавання учрэдзицельнаго сабрання.

Членоў ваеннай организацыи винавацили ў тым,

што нижние чыны пецербургскаго гарнизона прыступили да праступнаго саюза, каторы меў цэль падняць паўстанне з аружжэм ў руках и бунт ў войску и, силаю раскинуўшы устаноўлены аснаўными законами парадак упраўлення, устанавиць дэмократычную рэспублику.

Аднаго падсудзимаго судзили за тое, што ведаў аб усём гэтым и не данёс.

Цемната, пьянства и голад—вось прычыны таго, што цяпер робицца у нас, с чым не спаткаемся ни ў вадным краю.

Пачалося гэта ў часи рэволюцыйнаго руху, кали ўсюды пайшло замешанне, кали власьцi ўсе силы сваe зьвярнули на затрыманне рэвалюции. З агульнай безалабершчыны скарыстали ўсе тые цёмные, вечна галодные, напалову дзикие людзи, што, жывучы ў непрасьветнай начы, прывучылися слухаць не розуму, не слова, не суменьня, а тольки адной силы бизуна, гвалту: яны пачули, што бизун той цяпер, да часу, им не страшны, дык и падняли галаву, павылазили з цёмных нор сваих, пайшли шукаць лёгкай пажывы...

Ведама, для ўсяго народа гэта—вялiкае нешчасьце. Але смутны канец чакае и тых цёмных, сьляпых людзей, што думаюць ўвесь век пражыць, абираючы сваих братоў: рэдка кали грабежы ды зладзейства цяпер праходзяць без цяжкай кары.

Гдзе-не-гдзе народ зьвярнуўся да самасуда. Ваенные суды што-дзень пастанаўляюць не адзин сьмертны прыгавор.—А грабежы, ня гледзячы на гэта, не сцихаюць.

Не сцихаюць таму, што адной тольки силай тут ничога ня зробиш. Людзей, каторые страцили чалавечае пачуцьце, гвалтам не пераробиш на добрых, спакойных грамадзян.

Старонники силы ня хочуць гэтаго прызнаць. Вину за грабежы стараюцца яны ўзлажыць на рэволюционэроў, социалистоў. Але гэта—несправедлива.

Праўды, ў пачатку рэвалюции социалистычные и рэволюцыйные партии рабили „экспроприации“, значыць, силаю забирали казённые грошы на рэвалюцию. Але пазьней, як паявились людзи, каторые, называючы сябе рэволюционэрами, грабили, каго папала, дзеля сваей ўласнай карысьци,—тады ўсе партии на зьездах сваих пастанавили кинуць „экспропрiации“ ды старацца палажыць канец ўсим грабежам. —И цяпер нихто з гэтых партий да грабежоў не належыць.

Дык заместа зацемняць справу непраўдай, трэба лепш ваеваць з праўдзивыми прычынами вяликаго нешчасьця, трэба ваеваць проци адвечных ворагоў народа: *цемнаты, голаду, пьянства.* —Там, куды дойдзе сьвет праўдзивай навуки, гдзе кожны пачуе ў сабе *чалавека*,—там менш будзе бяды, гора и праступленьнёў, менш будзе и тых нешчасных, што цяпер ў цемноци сваей блукаюцца, збиваюцца з простай дароги и гинуць з вяликай ганьбай.

**Г.**

# Калядны вечэр.



Здаецца, и сам сьвет гатовиўся як можна лепш сустрэць Калядны вечэр.

Было циха. Над белаю зямлёю звисьли безхормены сивые хмары. Лес перастаў хистацца, маўчаў, закрыўшыся белым инеем, ўсё роўна як узлажыў к сьвяту чыстую кашулю. А стройные ёлки падымали свае головы высока над другими дзярэўями, и хораша вырысоўвалися ў небе их вяршыны, як крыжыки, як вежы цэрквей.

За дзень перад Куцьёю лясьник Тарас ешчэ да сьвета ехаў гасцинцэм ў горад N. Кожны год давадзилася яму ездзиць прад Калядами ў замак. Гэта язда падабалася Тарасу: яго пасылали як растаропнаго служаку, а ў замку яго знали ўсе паны и любили яго. А самае важнае тое, што Тарас возьме з горада свайго сына, Паўлюка, каторы апошни год вучыўся ў сэминарыи. Паўлюк—гордасць Тараса, прычына люцкой зайдрасьци.

Тарас купиў на дарогу пачачэк папярос за тры капейки, каб не так сцишна было аднаму ў поли и каб не вазицца с курэннем на холадзе. Ў палукашку ў санях ляжала штук пятнадцаць зайцоў, рыба, сушэные грыбы. Гэта—гасцинец к куцьи замковым паном ад пана лясьничаго.

* * *

Тарасова пасада стаяла кале самаго леса, каторы цягнуўся, як падкова, роўным паўкругам. Тут жэ кале хаты цякла рэчкакрыница. Тольки самые трэскучые марозы засцилали яе плёнкаю лёду.

Цяпер ў Тарасовой хаце кипела работа, —гатовилися к сьвяту, к Каляднаму вечэру; таму вечэру, катораго так нецярплива чакаюць дзеци и каторы так многа прыносиць радоснаго ў шэрае жыцце простаго чалавека.

Два старшые Тарасовы сыны — а яны ўжо были настаяшчые дзецюки — уходжвалися на дварэ: загатаўляли каровам трасянку, секли и пилавали дровы. А их дзяцька, Андрэй, меншы Тарасоў брат, залажыўшы сякерку за пояс, пашоў трэсьци свае кошыки. Андрэй быў заўзяты рыбак.

А самая важная работа шла ў хаце.

Сягоння Кася раней запалила ў печы. Белаваты дымок роўна падымаўся ў гару и расплываўся высока ў цихим марозным паветры. Кале печы стаяў ўжо заслон, накрыты чыстым настольникам. На адным яго

канцы стаяла ражка з цестам. Скаварады весела брэнчали па прыпеку, и мягкие гарачые аладки, як грушы, кидалися на заслон спрытнаю рукою Каси. Ўся лава проци печы была застаўлена мисками, гарнушками, гаршчками з усякими прыпасами для вячэры.

Пачынала зьмеркацца.

Ў покуци на сене ўжо важна стаяў гаршчок з куцьёю. Мужчыны ухадзилися и цяпер мылися ў ночвах. Дзяцька засеў брыцца.

Малышы даўно ўжо памылися, прыбралися и гатовы были сесьци за стол.

Ў хаци было циха. Ўсе старалися трымаць сябе як можна даликатна. Нават гарбуз—Михась вёў сябе, як сталы чалавек.

Невяличкая лямпачка, висючы над сталом, прыдавала хаци нешта незвычайнае и новае.

Вясёлы вечэр! Ўсе нецярплива чакали Тараса и Паўлюка, асаблива Паўлюка. Таки ён быў слаўны хлопец! Ды й бачыли яго даўно—поўгода, дзякуй Богу, ўжо прайшло, як Паўлюка не было дома.

* * *

— Михась! Михась! хадзи сюды!—Падкликаў да сябе Пятрусь Михася.

Два браты, самые меншые Тарасовы сыны, выбирали цёмны куток и пачынали гаварыць.

— Ну, гдзе, ты думаеш, цяпер Каляды?—пытаўся Пятрусь.

— Гдзе ж?—адказваў ня думаючы Михась:—ў Минску. За гадзину и к нам прыдуць.

— Ото дурэнь! ци-ж можна за гадзину прыйсьци з Минска?

— Дык яны на машыне прыедуць, — не здаваўся Михась.

— Дурны ты! Каляды-ж не жывые. Дзень таки — Каляды, сьвята, — тлумачыў Пятрусь Михасю.

Тут их гутарка на минуту абрывалася.

— Зараз прыедзе тата с Паўлюком, — пачынаў Михась, як бы гаворачы сам с сабою, и яго круглые цёмные вочки были поўны цихих думак.

Ўсе ў хаци чакали Паўлюка и аб им тольки и думали. Дзядзька Андрэй зрабиў яму харошэнькую шафку для книг и прыбиў яе кале сьцяны, гдзе спаў Паўлюк. Маци паклапацилася напхаць мягки сянник и прыгатаваць чыстую пасьцель. Старшы сын, Алесь, разстараўся другую стрэльбу, каб пайсьци с Паўлюком на зайцоў. А Пятрусь и Михась вывучыли ўвесь буквар, бо Паўлюк дакляраваў им купиць за гэта книжок з малюнками.

Михась с Пятрусям тым часам гаварыли изноў. Цяпер рэч шла на шчот вячэры.

— Ты тольки, Михась, не накидайся адразу на яду,—прадсьцярагаў Михася Пятрусь:—бо мама што раз будзе даваць смачнейшую страву. Я летась падашукаўся. Паставили верашчаку, дык я и давай хлыстаць. Потым даюць квас, ды таки смачны. Я за квас. Далей смажаная рыба... Вячэра ешчэ ў палавине, а мяне ужо хоць на пупи круци.

— А заўтра мы будзем шукаць на стале зерняты?

— А як жэ? И яких зернят больш будзе, тае збожэ на лета лепш уродзицца.

— Алесь ёлку нясе!—крыкнуў Михась.

Харошэнькую, зялёную, купчастую ёлачку паставили кале стала.

— А ёй тут добрынька: цёпла! — гаварыў ён и заливаўся вясёлым сьмехам.

* * *

На дварэ забрахаў стары Жук. Ўсе кинулися к акну.

— Прыехали!

Андрэй з Алесем, накинуўшы кажухи пашли спатыкаць Тараса с Паўлюком...

Вот зараз адчыняцца дзьверы, и на парозе пакажэцца фигура Паўлюка з маленькими цёмными вусиками и шчасливым тварам.

Кася абцёрла хвартухом губы. Лёгкая дрыготка прабегла ца яе целу. Михась с Пятрусем палезли на печ. Дзеўчаты старалися ўзяць што-нибудзь ў руки и цикавали на дзьверы.

— Што-ж яны там кошкаюцца? — Не цярпелася мацеры.

А яна ўжо некольки разоў прад гэтым выхадзила маўчком на двор и пазирала на дарогу. Стаяла, слухала, ци не пачуе ў леси знаёмае „Но!..“

Цераз некольки минут ў хату вайшоў Тарас. Вусы яго были белые ад марозу. Нешта смутнае праняслося у Каси.

— А гдзе Паўлюк?

Тарас быў хмурны. Было видна, што многа горких думак бушавала ў яго душы.

Тарас маўчаў. Ў хаци зрабилася нудная цишына.

— Ў турме наш Паўлючок! — як стогн вырвалася ў рэшци з грудзей Тараса.

И ў хаци стала ешчэ цишэй, ешчэ нудней....

**К. Альбуцки.**

